
У дарогу ў Мора →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ


Апошняя кніга →8

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (3363) Год LXV Беласток, 1 лістапада 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Званок з рання ў пятніцу 23 кастрычніка ў рэдакцыю „Нівы". Падымаю трубку стацыянарнага тэлефона і чую ў ім усхваляваны голас Валянціны Швед, якая паведамляе, што ў чацвер вечарам не стала яе мужа Віктара. Так як і па-чалавечы павінна быць, Новапрадстаўлены развітаўся з зямным светам у сваёй беластоцкай кватэры, у акружэнні кахаючай сям'і і родных. Паміраў дома, як Ягоныя бацькі і дзяды. Чаму гэта так важнае для чалавечай годнасці і духоўнасці ў сённяшнім звар'яцелым і дэгуманізаваным свеце, адчуваем аж да болю цела і душы на фоне жахлівага танца каранавіруснай смерці.

Дачакаўся прыезду на развітанне сваёй музы-натхняльніцы — дачкі Натальі з мужам, якой сваю бацькоўскую любоў праліваў таксама і ў радках вершаў, ахвяроўваных ёй гадамі з першых дзён нараджэння. Вершаў, як магу толькі здагадвацца, не раз акропленых дабрынная слязою. А некалькі слоў у адрас дачкі былі яго апошнім выказваннем. Адышоў на дзевяноста шостым годзе жыцця, паклікáны перад аблічча Бога.

Віктар Швед — гонар беларусаў Беласточчыны, Якому родная „Ніва", як Сам любіў паўтараць, была найдарэжэйшай на гэтым свеце. Знітаваўся з ёю яе лёсам як журналіст і паэт векапомнымі радкамі „Я беларус". Зрабіў жыццёвы выбар, які не быў пафасным пустаслоўем. Быццам той жаўнер, які раз даў прысягу на вернасць сваёй малой Айчыне — Беласточчыне, ніколі ёй не здрадзіў. Узгадваюцца мне адразу музыка і спеў Янкі Хохі, які ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя разам са сваім „Белым сном" выдаў касету з песнямі на словы Віктара Шведа. Тадышняе выкананне песні „Мая маленькая Айчына, мой Беластоцкі родны край..." і па сённяшні дзень выклікае дрыжыкі на маім целе. Голас Янкі Хохі паплыў ужывую і ў час літургіі ў суботу 24 кастрычніка ў Свята-Духаўскай царкве на Антонікаў, што ў Беластоку, дзе адбылося развітанне з пакойным Віктарам Шведам. Памінаць спевам і малітвай з'явіўся таксама не менш легендарны айцец і музыка Дзмітры Ціханюк са сваім сынам Янам. Сваю пашану і павагу Віктару Шведу выказала сваім непаўторным спевам на хоры ў час паніхіды і літургіі Ганна Кандрацюк, рэдактар „Зоркі", на якой старонках друкаваў свае вершы дзецям з самага пачатку аж да апошніх месяцаў толькі што адышоўшы наш класік беларускай літаратуры. Словы падзякі хачу накіраваць ад свайго імя, але і думаю, ад усіх тых, хто змог пабываць на апошнім развітанні з Віктарам Шведам, бацюшку Андрэю Беразаўцу — сябру Віктара Шведа з маладосці аж да апошніх дзён і бацюшку Міраславу Філіманюку — пляменніку Паэта. Абодва яны ў час багаслужбы прыгожымі словамі на беларускай мове ўшанавалі не толькі Пакойніка, але і важнасць усяго беларускага свету Падляшша і яго людзей.



Фота Вальдэмара Кяткоўскага

# Ізноў я ў вёсцы Мора

Натуральным і поўным падзякі за зробленае Віктарам для некалькіх пакаленняў беларусаў Беласточчыны, а тым самым і для самой, незалежнай, беларускай ідэі, было пакрыццё труны ў час літургіі бел-чырвона-белым сцягам прынесеным Барбарай і Міраславам Пякарскімі. Нягледзячы на ўсю змрочнасць навейшай беларускай гісторыі, Віктар Швед на ўласныя вочы змог яшчэ пабачыць як зараз беларускі народ становіцца такім, пра які Ён марыў і пісаў. А беларускай прагі свабоды і нацыянальных сімвалаў нам ужо не забраць. Відаць, паспакайнела ягонае душа і сэрца, калі Усявышні паклікаў яго на свой нябесны Парнас, каб усім там адышоўшым „беларусам" прынесці навіну, што „Жыве Беларусь!". І менавіта пра тую Віктараву веру і нязломнасць духу над Ягонай труной гаварыў ад імя прысутных прафесар Алег Латышонак. Тэкст яго прамовы друкуем побач, а фотарэпартаж Ганны Кандрацюк глядзіце на 3 старонцы.

Пандэмія і санітарны рэжым не дазволілі ўсім жадаючым з'явіцца на апошнім развітанні з Народным Паэтам Беласточчыны. Але па меры магчымасці з'явіліся прадстаўнікі ўсіх нашых, беларускіх арганізацый і асяроддзяў, з якімі цягам жыцця быў ён звязаны. І гэта таксама сведчанне павагі да чалавека, які ў адзіночку рабіў для большасці тое, чаго яна не разумела, што, уцякаючы ад сваёй беларускасці, такім чынам абкрадае і ганьбіць перад усім свой сямейны радавод. Віктар Швед з'яўляецца тым беларусам у Польшчы, які сваю і нашу беларускасць запісаў для вечнасці на старонках усіх сваіх выдадзеных кніжак. Уяўляю і адчуваю па сабе больш рэальна, якім болем цягам дзясяткаў гадоў ёсць назіранне за нашым, беларускім адміраннем на Беласточчыне. Мы яшчэ пераняалі пакуль гэтую эстафету берагчы родны схоў. На як доўга...

Так як і хацеў сам Віктар Швед, свой жыццёвы шлях вырашыў Ён завяршыць на могільніку ў сваёй вёсцы Мора, сярод акружаючых яго сялянскіх палёў. Не маглі мы быць там у апошніх хвілінах. Але, відаць, хацелася Яму самому апошнюю, зямную дарогу з горада ў Мора праехаць у задуменні, цеплыні восеньскіх настрояў і колераў. Бо ж трэба паназіраць душою, каб ужо там недзе ствараць свае новыя, нябесныя вершы. Гэтыя на зямлі для нас беларусаў сталі ўжо вечнымі. Дзякуем Вам за ўсё! Вечная памяць!

Яўген ВАПА

**Дарагі Віктар!**

Звяртаюся да Цябе старым звычаем, як калісьці развітваліся са змагарамі за Бацькаўшчыну.

Ты быў паэтам і як такога запамятае Цябе наш народ.

Але Ты быў сапраўдным змагаром! Для майго пакалення Ты быў заўсёды ўзорам беларуса. Цяпер мы ўжо ва ўзросце, у якім Ты быў, калі мы пачыналі новы, малады беларускі рух на Беласточчыне. Ты быў адным з нешматлікіх «старых», якія нас тады падтрымалі. Калі мы яшчэ раз паднялі штандар наш бел-чырвона-белы, Ты стаў пад гэты сцяг верна і непахісна. Цяжка сабе ўявіць святкаванне 25 Сакавіка без Тваёй прысутнасці...

Ты быў вельмі добрым і ціхім чалавекам. Я, як гісторык, дакараў Цябе, што не пішаш пра дрэнныя ўчынкі людзей, а бывала ж па-рознаму. А Ты мне з усмешкай адказваў, што не хочаш пра нікога пісаць кепска. І што з такім зробіш?

Тым не менш Ты быў цвёрды, гэтай унутранай цвёрдасцю, якая адбываецца без гучных заяў. Ты быў гатовы служыць свайму народу не толькі словам, але і са зброяй у руках. Для нас Ты быў беларускім афіцэрам!

Але звычайна мы гаварылі пра Цябе проста «наш Віктар». Не адзін Віктар на свеце, але «нашым Віктарам» быў толькі Ты; і такім застанешся ў нашай памяці!

Бывай, Сябра! Пухам Табе родная зямелька!

Алег Латышонак





# Глядзі ў акно

Гародня. Нядзеля. Дваццаць пятага кастрычніка. Цэнтр горада перакрыты сілавікамі. Ён узяты ажно ў два колы людзей у балаклавах на галовах, каб ніхто не мог прайсці ў цэнтральную частку свайго роднага горада. Стаяць аўтазакі. Чакае вадамёт. Міліцэйскія машыны выстраіліся і мігаюць сінімі і чырвонымі агнямі. Людзі ў камуфляжнай форме ідуць са шчытамі і дубінамі. І вось з'яўляецца сярод іх некалькі чалавек са стрэльбамі...

Напэўна гэта помпавыя стрэльбы, ці яшчэ якія там. Гэта ўжо не важна. Стрэльба ёсць стрэльба. Па законе жанру яна нават на сцяне раз у год страляе сама. А тут у руках людзей у камуфляжы, і здаецца людзей моцна збянтэжаных і нават напалоханых. Тут яна сапраўды можа бабахнуць. Напэўна для гэтага ім і далі ў рукі зброю, тым, з выгляду збянтэжаным і напалоханым...

А бянтэжыцца і палохацца няма чаго, бо людзі, якія стараюцца прабіцца праз два колы сілавікоў у цэнтр горада, цалкам мірныя і зусім не агрэсіўныя. І зброі ў іх няма. Ні помпавай, ні нават дзіцячай для забаў няма, ніякай. У іх толькі сцягі. Бела-чырвона-белыя сцягі. І імкнуцца яны патрапіць у цэнтр свайго роднага горада толькі з адной мэтай — каб задэкляраваць сваю ранейшую пазіцыю пра тое, што хочуць жыць у сваёй справядлівай краіне, якой будзе кіраваць той, хто набярэ больш галасоў на чэсных выбарах...

Ну няўжо гэта так шмат яны хочуць?!

Людзі ідуць у цэнтры сваіх гарадоў і ў Лідзе, і ў Свіслачы, і ў Навагрудку, і ў Карэлічах, і ў Ваўкавыску, і ў Слоніме, і ў Іўі. У іншых населеных кропках Гарадзеншчыны малюнак падобны. І не толькі так дзецца на Гарадзеншчыне, так па ўсёй Беларусі.

У Мінску па вуліцах ужо рухаюцца сотні тысяч людзей. Там тое самае — спецтэхніка. Пагрозлівыя крыкі ва ўзмацняльнік пра тое, што акцыя незаконная і ўдзельнікі будуць прыцягнутыя да адказнасці. Сілавікі са шчытамі і дубінамі перакрываюць дарогі. Вадамёты. Сірэны. Мігалкі... Восень. Кастрычнік. Залатое і чырвонае лісце разносіць вецер. Ён, вецер, купаецца і ў бела-чырвона-белых сцягах, якія лунаюць над усёй калонай пратэстоўцаў. Ад пачатку і да канца калоны лунаюць сцягі і „Пагоня". Яна нібыта паказвае шлях. І выгукі „Верым, можам, пераможам!" як пярун разразаюць паветра. І неўміручае, светлае і сцвярджальнае „Жыве Беларусь!!!"...

Ужо трэці месяц запар я пачынаю свае фельетоны падобным апісаннем. Але гэта не дэжавю. Гэта сённяшняя беларуская рэальнасць. Кожную нядзелю людзі выходзяць на вуліцы і ідуць мірным шэсцем, каб чарговы раз задэклараваць сваё цвёрдае рашэнне дамагчыся перамен у сваёй краіне.

— Глядзі ў акно, — гучна прапаноўваюць яны тым, хто яшчэ не выйшаў на вуліцу. — Не глядзі больш тэлевізар, глядзі ў акно. Тут ты ўбачыш праўду!

Праўда робіцца на вуліцы. Праўда і гісторыя. Беларуская гісторыя, якую робіць беларускі народ. І не толькі ў нядзелю. У суботу выходзяць жанчыны, у панядзелак пенсіянеры, у аўторак студэнты... І так усе колы грамадства. Спартсмены, інваліды, цяжарныя, рабочыя, усялякія... Каб у беларускім тыдні было сто дзён, то і тады на кожны дзень знайшлося б каму выйсці. І ўсе як бы паказваюць, як бы прапаноўваюць, маўляў, гляньце на нас, мы мірныя, мы за мірныя змены, ну калі да вас ужо дойдзе!

Людзі паўсюдна вывешваюць нацыянальную беларускую сімволіку. Улады загадваюць камунальшчыкам яе здзіраць. Сілавікі кантралююць гэты працэс. Часамі ён выглядае так камічна і недарэчна, што нічым яго нельга растлумачыць. У Смаргонскім раёне жыхары павесілі сцяг на самае высокае дрэва. Як ім гэта ўдалося, сказаць цяжка, бо за цэлы дзень камунальшчыкі, выкарыстоўваючы навейшую тэхніку, так і не змаглі яго зняць. А можа не хацелі і толькі імітавалі працу. Тады ўлады загадалі... спілаваць дрэва.

А на адной са сцен уначы жыхары наклеілі бела-чырвона-белыя сцягі. Зранку сцягі прывялі камунальшчыкаў, каб іх аддзерці ад сцен. Але як толькі сцягі былі здзертыя, на сцяне пад імі ўсе ўбачылі надпісы „Лукашэнка сыходзь". Сілавікі так напалохаліся, што зноў закрылі іх бела-чырвона-белымі сцягамі. І пільнавалі іх так, пакуль камунальшчыкі не схадзілі за фарбай. А тыя не надта спяшаліся. Так і стаялі яны ў ганаровай варце перад нацыянальнымі сімваламі.

І гэта ўжо жыццёвыя гісторыі якія навечна ўвойдуць у жанр анекдота. Дарэчы, пра анекдоты. Народная творчасць папаўняецца імі штодзённа. Беларускі палітычны гумар аказаўся не толькі тонкі і глыбокі, але яшчэ і філасофскі. Прыкладам развагі пра тое, ці не занадта зараз беларусы мірныя, выліліся ў вельмі сатырычным і трапным філасофскім анекдоце з яўнай незакончанай канцоўкай. Як бы слухачу самому прапаноўваецца задумацца і адказаць на гэтае пытанне. Нібыта тэставанне гэтага філасофскага пытання грамадствам адбываецца вельмі асцярожна, нават праз вытанчаны гумар і лёгка закамуфляваную сатыру. Мяркуйце самі:

„Сядзяць на даху высокага дома дзве беларускія дзяўчынкі. Адна дзяўчынка добрая, а другая дзяўчынка злая. І абедзве кідаюць у мінакоў камянямі. Злая дзяўчынка папала камянямі па трох чалавеках, а добрая — па пяцёх. Добрая патрапіла ў двух чалавек больш. Гэта таму, што дабро заўсёды перамагае зло".

Ці вось такі:

„Тэлефануе ранкам адна сяброўка другой і кажа:

— Ты ведаеш, мой муж сёння ў ночы праз сон казаў, што трэба ісці на праўладны сход.

— Які жах, — адказвае другая. — То ты ж яму растлумач як гэта кепска, як ён прачнецца!

— Ён больш не прачнецца, — уздыхае першая".

Дарэчы, пра праўладны сход. Ён планаваўся ў гэтыя выходныя з размахам. З усёй Беларусі аўтобусамі мусілі прывезці людзей, каб яны падтрымалі нашага галоўнакамандуючага. У апошнюю хвіліну сход адмянілі. Сказалі, што з-за пандэміі. Улічваючы тое, як галоўнакамандуючы пандэмію зусім нядаўна называў каронапсіхозам, дадзенае рашэнне таксама можна аднесці ў разрад анекдотаў. Ну а ўдзельнікі таго праўладнага мітынгу, які так і не адбыўся, цяпер могуць спакойна паглядзець тэлевізар, а могуць і ў акно паглядзець. А там, за акном, восень, кастрычнік, рознакаляровае лісце падае пад ногі сотням тысяч людзей з бела-чырвона-белымі сцягамі, якія прапаноўваюць ім паглядзець у акно, каб убачыць праўду.

— Глядзі ў акно, — кажуць яны. — Не глядзі тэлевізар. Глядзі ў акно. Тут цікавей.

Пра сапраўдныя прычыны адмены праўладнага сходу гавораць не шмат, але высновы зводзяцца прыкладна да аднаго: патэнцыйныя ўдзельнікі таго сходу маглі падмануць і не прыйсці, хтосьці прыйсці, адзначыцца і ўцячы, а хтосьці мог і далучыцца да калоны пратэстоўцаў з бела-чырвона-белымі сцягамі. А можа і ўсе далучыліся б, бо ў Беларусі апазіцыйна настроеныя людзі былі заўсёды. Цяжка ім было, ахвяравалі сабой. Супраць іх лёгка было выступаць на праўладных акцыях. А вось зараз апазіцыйна настроенымі сталі ўсе, ці амаль усе. Тут ужо супраць ветру пляваць не зусім зручна.

Каб завяршыць тэму анекдотаў, варта ўзгадаць яшчэ пра аднаго гомельскага сілавіка, які склаў пратакол на пратэстоўцаў. На судзе, на пытанне чаму ён затрымаў менавіта гэтых людзей, сілавік адказаў:

— У іх вопратка была палітычных колераў.

І гэта ўжо не анекдоты. Тут цэлыя сцэнарыі для будучых камедый гатовыя, героі якіх зацямняць і бравага салдата Швейка, і Астапа Бендэра, і Осціна Паўэрса, і Доктара Зло разам узятых.

І ўсё было б так смешна, калі б не было так сумна. Апрануты ў незразумелыя даспехі сілавік з балаклавай на галаве і са стрэльбай у руках на сённяшні дзень адцясняе жартаўлівыя сцэнарыі. Зараз ён сам і сцэнарый, і выканаўца, толькі далёка не камічнай ролі. І толькі моцная вытрымка мірных пратэстоўцаў, якой захапляецца ўвесь свет, не дазваляюць яму нарабіць яшчэ большай шкоды. Семдзесят восем дзён запар, дванаццаць тыдняў, беларускі народ паказвае зайздросную і неверагодную вытрымку і вартасць, і незвычайную палітычную спеласць, і самадастатковасць. Вось гэта важна, што старадаўні народ зноў адчуў сябе самадастатковым. Ён спадзяецца выключна на сябе.

Ну а заканчваць фельетон, на жаль, прыходзіцца як і іншыя цягам апошніх месяцаў інфармацыяй пра тое, што ў Мінску зачынілі дванаццаць станцый метро, адключылі інтэрнэт, перакрылі горад, вывелі на вуліцы сілавікоў і спецтэхніку, і ўсё каб перашкодзіць мірным пратэстоўцам рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права на мірныя сходы і свабоду выказванняў. Іх закідалі светлашумавымі гранатамі і абстралялі гумовымі кулямі... На іх напалі, іх хапалі, арыштоўвалі... І гэта не дэжавю. Гэта сённяшняя беларуская рэальнасць.

Але людзі ўсё адно выходзяць.

Увесь свет зараз як гляне ў тэлевізар, або ў акно бачыць бела-чырвона-белыя сцягі.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Паваротныя дзверы, альбо як увайсці, каб выйсці

Сярод шматлікіх пошукавых паездак майго дзяцінства, калі я, насуперак забароне бацькоў, пакідаў родную пясочніцу і бацькоўскі падворак, найбольш цаню адкрыццё гасцініцы «Крышталь», якая ў той час была прадстаўнічай. На самой справе яе чатырохкрылых дзвярэй, якія паварочваліся як карусель — адзіных у сваім родзе ў Беластоку. У Варшаве такіх было ажно пяць. Сусветным рэкардсменам у гэтым плане быў вядома, нью-йоркскі Манхэтэн са шматлікімі хмарачосамі. Паваротныя дзверы былі ўсталяваны ў іх, праўда, не проста, як у Беластоку ці Варшаве, а толькі з практычных меркаванняў. Звычайныя аднастворкавыя дзверы літаральна закліноўваліся з-за ветру з-за ўплыву розніцы ціску паветра ўнутры і звонку будынкаў, тым большай, чым вышэйшы будынак. У той час гатэль «Крышталь» быў трохпавярховым асабняком побач з хмарачосамі Нью-Йорка. Толькі пры дэмакратыі да яго прыбудавалі адзін-два паверхі. З гэтай нагоды паваротныя дзверы былі зняты. Аднак падчас майго дзяцінства яны тым былі, і яшчэ якія! Чатырохкрылыя, зашклёныя, мудрагелістыя... О, такая сярмяжная «пацёмкіншчына» ў маштабе ПНР! Я прызнаю, што мяне з дзяцінства захапляла гэтая з'ява — гэтая схільнасць людзей паддавацца салодкім ілюзіям. Сумна, што такога ідэалагічнага фасада не хапае нават у сучаснай Польшчы. Але гэта дарэчы. Вернемся да дзвярэй, якія верцяцца. Для таго, каб увайсці ў гасцініцу з імі, вам трэба было ўскочыць паміж яго крылаў і штурхнуць адно перад сабой, адначасова пільнуючыся ад наступнага. Другое крылы паводзіла сябе як круціўшаяся рыдлёўка і ахвотна выкідвала цябе навонкі. Такім чынам, усё задавальненне складалася ў тым, каб своечасова выскачыць спаміж круціўшыхся крылаў у фае гатэля і гэтак жа своечасова ўскочыць паміж іх, уцякаючы ад раззлаваных рэгістратарак. Адна з іх, наколькі я памятаю, мажная жанчына, была такой жа прыгожай, як Аляксандр Лукашэнка, і нават мела вусы. Яна не саступала яму сваёй жорсткай строгасцю. Аднойчы, калі я не змог уцячы ад яе, яна цягнула мяне за вушы, а іншы раз за пэйсы. Ух, балюча! Я не буду згадваць не раз'юшаных крыкаў і пагроз. Тым не менш я паслядоўна даследаваў гэтыя паваротныя дзверы і з цягам часу ўцягнуў у гэтую гульню сваіх сяброў з двара. Ва ўсякім разе, менавіта дзякуючы нашым дзіцячым ласкам іх пацёмкінская фасаднасць ці правінцыйны касмапалітызм набывалі зместавы сэнс. Яны сталі матэрыялам дзіцячага ўяўлення. Менавіта дзякуючы ёй вярціўшыеся дзверы гэта ўжо не проста дзверы, а руіны замкаў, па-майстэрску зробленыя з пяску, толькі хаатычная гурба ў пясочніцы.

Усё ж мэтай майго даследавання дзяцінства былі не паваротная дзверы, а творчае даследаванне рэальнасці, якую я заспеў. Мэта дзяцей — не руіны з пяску, а ўдасканаленне майстэрства стварэння. Дэманстрацыі беларусаў супраць дыктатуры Лукашэнкі маюць нейкую тую самую схаваную мэту. Іх пратэсты заключаюцца не столькі ў звяржэнні яго аўтарытарнага кіравання, колькі ў творчым, я лічу, развіцці грамадзянскай апазіцыі і вызначэнні ўласнай ідэнтычнасці, а таксама месца ў сучасным свеце. Не дай Бог, я не хачу прыраўноўваць гэтую грамадскую працу да дзіцячага будаўніцтва ў пяску. Таму што гэта не забава. Гэта сур'ёзная гульня. Гэта драматычная гульня. Гэта трагічная гульня для многіх. Справа не ў болі ад надарваных пэйсаў. Гэта не дзіцячыя слёзы, а вельмі дарослыя слёзы. Як паведамляюць незалежныя СМІ ў Беларусі, «толькі ў жніўні і верасні ў Мінску па меншай меры 1376 чалавек сталі ахвярамі жорсткіх дзеянняў сілавікоў. У кожнага трэцяга чалавека, якога збілі, былі раны, якія лекары апісвалі як «ад сярэдняй да цяжкай ступені». Больш за 600 жыхароў беларускай сталіцы былі збітыя не падчас пратэстаў, а пасля затрымання, у камендатуры альбо ў арыштце па Акрэсціна. Прынамсі тры асобы былі згвалтаваны сілавікамі, а адна з іх была непаўналетняя. У дачыненні да сілавікоў не ўзбуджана ніводнай крымінальнай справы».

Лукашэнка не мае ў чым сябе абвінавачваць. Вулічныя дэманстрацыі працягваюцца. Прыбывае ахвяр рэжыму. Тым не менш вулічныя дэманстрацыі не слабеюць. Але супраціў улады таксама не меншае. Быць ці не быць Беларусі, як вяртлявыя дзверы, надалей круціцца з альтэрнатыўным пытаннем. На пытанне пакуль няма адказу.

**Міраслаў ГРЫКА**


Фота Ганны Кандрацюк

Ś. P.
Wiktor Szwed
Żył lat 95
Zmarł dnia 22.10.2020r.
Pożegnanie Zmarłego od piątku 23.10.2020r.
od godz. 16:00 w Cerkwi Dolnej p.w. Świętego Ducha
przy ul. Antoniuk Fabryczny.
Panichida o godz. 17:00.
Liturgia w Cerkwi Dolnej p.w. Świętego Ducha
w sobotę 24.10.2020r. o godz. 8:30.
Pochowanie na Cmentarzu Prawosławnym
w miejscowości Morze.
O czym zawiadamia pogrążona w smutku - Rodzina

# Віктар Швед
## (23.03.1925-22.10.2020)





Шкадуем, сумуем,
спачуваем Валі, Натальцы,
сваякам **Віктара Шведа**, які адышоў
ад нас на бясконцыя васільковыя
лугі. Чакай нас, Дружа, мы тут яшчэ
маем што сказаць на нашай зямной
роднай ніве
і паўтарыць Твае словы

*«Ніўцы», карэспандэнты,*
*чытачы, Твае вучні*






Фота Аляксандра Вярбіцкага

Адышоў Паэт наш першы, найстарэйшы **Віктар Швед**. Ён пакінуў у жыцці нашым і ў сэрцах моцны след. У нябесным Віктар Моры будзе нас далей натхняць, застаецца нам, як Віктар, жыць для Бацькаўшчыны і пісаць.

*Родным і блізкім Віктара Шведа словы спачування і падтрымкі ад сяброў «Белавежы»*

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування
Валянціне і Натальцы
і іх блізкім
з прычыны напаткаўшага
гора – смерці мужа і бацькі

**Віктара ШВЕДА**

*Сябры з Аб'яднання АБ-БА,*
*Беларускага Саюза*
*і Радыё Рацыя*

Wyrazy
głębokiego współczucia
rodzinie i bliskim z powodu
śmierci

**Wiktora Szweda**

polsko - białoruskiego poety, publicysty, działacza mniejszości białoruskiej

składa

**Bohdan Paszkowski**
Wojewoda Podlaski

## СПАЧУВАННІ

З вялікім смуткам Пасольства і Культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы ўспрынялі вестку аб смерці спадара **Віктара ШВЕДА**, паэта, перакладчыка, публіцыста, грамадскага дзеяча, заснавальніка і сябры Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", аўтара шматлікіх выданняў, прызначаных як дарослым, так і дзецям.

Гэта велізарная страта для ўсёй беларускай супольнасці. Віктар Швед больш за сорак гадоў дзяліўся сваім шчодрым талентам з асяроддзем. Майстэрства яго паэтычнага слова глыбока кранала душы ўсіх пакаленняў беларусаў ад малога да вялікага. Аб высокай ацэнцы творчасці паэта і актыўнай грамадзянскай пазіцыі гавораць яго ныя шматлікія ўзнагароды, як польскія, так і беларускія, у тым ліку беларускі ордэн Францыска Скарыны.

Выказваем глыбокія спачуванні сям'і, родным і блізкім, сябрам і паплечнікам, з якімі мы шчыра падзяляем боль страты.

Вечная памяць!

23 кастрычніка 2020 года
г. Варшава

## СПАЧУВАННІ

Спачуванні жонцы і дзецям
**Віктара Шведа**
ў сувязі са смерцю нашага
выдатнага беларускага
паэта выказваюць

*настаўнікі і вучні ПШ № 3*
*з Бельска-Падляшскага.*

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування
Сям'і з прычыны адыходу
Вялікага Нашага Паэта,
з якім мы мелі гонар
супрацоўнічаць выказвае

*Фонд «Царкоўная музыка»*
*ў Гайнаўцы.*

# Вучыліся пісаць іконы

## і прыемна праводзілі час





■ Пісалі іконы вучні гайнаўскіх школ (збоку тлумачыць айцец Павел Заброцкі)



**Вучні пачатковых школ Гайнаўкі і Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы ў верасні прынялі ўдзел у майстар-класах па пісанні ікон. У прыхадскім доме ў Дубінах умела вёў іх намеснік дырэктара Звышліцэйскай іканапіснай школы ў Бельску-Падляшскім, настаўнік праваслаўнай рэлігіі ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, протаіерэй Павел Заброцкі. Моладзь у час заняткаў знаёмілася з асновамі пісання ікон, жыцця іканапісца і пад наглядам айцца Паўла Заброцкага ўмела напісала на дошках іконы Хрыста «Нерукатворны Спас». Ва Успенскай царкве ў Дубінах 18 кастрычніка настаяцель прыхода, настаўнік праваслаўнай рэлігіі ў Гайнаўскім белліцэі, протаіерэй Андрэй Буслоўскі асвяціў напісаныя вучнямі іконы. Кожны ўдзельнік майстар-класаў забраў сваю ікону дамоў, каб магчы маліцца да Спасіцеля перад самастойна напісаной іконай.**

Калі я ўвайшоў у залу, дзе адбываліся заняткі па іканапісанню, пад сценамі былі расстаўлены сталы, а за імі сядзелі вучні пачатковых школ, ліцэісты і цярпліва пісалі іконы. Галоўны арганізатар майстар-класаў, настаяцель Прыхода Успення Прасвятой Багародзіцы ў Дубінах протаіерэй Андрэй Буслоўскі ўдакладніў, што ў занятках, якія ладзяцца з фінансавай падтрымкай Маршалкоўскай управы ў Беластоку і Павятовага старства ў Гайнаўцы, прымаюць удзел 16 вучняў ва ўзросце ад 12 да 20 гадоў.

— Арганізуючы майстар-класы, мы хацелі пазнаёміць мясцовую моладзь з тэалогіяй, гісторыяй, падставамі пісання ікон і вучыць іх тэхніцы гэтага занятку. Айцец Павел Заброцкі прыблізіў вучням таксама гісторыю іконы Хрыста «Нерукатворны Спас», якую ўсе вучні пісалі і звярнуў увагу на багатую спадчыну пісання ікон у праваслаўі. У час заняткаў адбываецца інтэграцыя моладзі. Іконы, якія вучні тут канчаюць пісаць, будуць асвячацца. Я заўважыў, што вучні з вялікай ангажаванасцю пісалі іконы, але цікава ім было таксама пазнаёміцца з асновамі іканапісу. У вядучага майстар-класы айца Паўла Заброцкага быў вельмі добры кантакт з моладдзю. Гэта вельмі важнае ў навучальным працэсе, а асабліва ў занятках пісання ікон, калі моладзі трэба было вельмі ўважліва слухаць парады і заўвагі вядучага, каб можна было правільна і як мага найлепш напісаць іконы. Сустрэчы кожнага дня доўжыліся на працягу некалькіх гадзін і вучні ўвесь час інтэнсіўна працавалі. Аднак адразу пасля заканчэння заняткаў не выходзілі, каб хутчэй дабрацца дамоў, але хацелі яшчэ супольна паразмаўляць. Мы на развітанне падрыхтавалі для вядучага заняткі і вучняў падарункі і салодкі пачастунак. Спадзяемся на ўдзел моладзі ў чарговых ініцыятывах, з якімі наш Дубінскі прыход будзе выходзіць, — сказаў протаіерэй Андрэй Буслоўскі.

Протаіерэй Павел Заброцкі ў час апошніх заняткаў падыходзіў па чарзе да ўсіх удзельнікаў майстар-класаў і даваў ім парады наконт працы, якую трэба было яшчэ выканаць, каб завяршыць пісанне іконы. Кожная маладая асоба засяродзілася на сваёй іконе. Аднак вучням складана было выседзець доўга ў адным месцы, таму рабіліся перапынкі. Тады вядучы заняткі і моладзь выходзілі з памяшканняператворанага ў часовую майстэрню пісання ікон і маглі паразмаўляць паміж сабой і расказаць пра ход майстар-класаў.

— У час заняткаў я стараўся пазнаёміць юных іканапісцаў з падставамі іканапісання. Звяртаў увагу, каб вучні спачатку накладвалі цёмныя слаі фарбы, а пазнейшыя слаі былі штораз яснейшымі. Гэта асабліва важнае было на твары, але таксама тычылася фону, валасоў, і іншых дэталяў на іконах. Праца патрабавала цярплівасці, што з часам паяўлялася ў нашых вучняў. Калі маладыя асобы паспрабавалі накласці чарговы слой фарбы на папярэдні, які яшчэ добра не засох, бачылі, што гэта ў іх не атрымліваецца і гэта вучыла цярплівасці. Калі адны дэталі на іконах сохлі, вучні маглі займацца іншымі. Самым складаным было рассвятліць твар Спасіцеля. Іконы напісаныя моладдзю розняцца між сабою, паколькі тэхніка іх пісання ў кожнай асобы іншая, а на гэта мелі ўздзеянне таксама здольнасці і заанагажаванне на нашых занятках. Гэта першыя іконы напісаныя вучнямі і можа будуць яны мець магчымасць прыняць удзел у чарговых майстар-класах, калі такія будуць на Гайнаўшчыне і напісаць новыя іконы. Падобныя майстар-класы мы праводзілі ў Бельску-Падляшскім пры Міхайлаўскай царкве, дзе я служу вікарным святаром. Там вучні пісалі іконы Прасвятой Багародзіцы, свяціцеля Мікалая, святога дзіцяткі Гаўрыіла і іншых святых. Ідэя такіх майстар-класаў — зацікавіць іканапісам маладых асоб. Некаторых з іх цягне, каб напісаць чарговыя іконы. Адзін з бельскіх вучняў выявіў нават ахвоту вучыцца ў нашай Звышліцэйскай іканапіснай школе ў Бельску-Падляшскім. Такія майстар-класы па пісанні ікона якія я вёў у Дубінах і Бельску, дазваляюць не толькі выявіць мастацкія здольнасці моладзі, але вучаць іх цярплівасці і пакорлівасці, што вельмі патрэбнае ў нашым звычайным жыцці, — расказаў протаіерэй Павел Заброцкі ў час перапынку.

— У час майстар-класаў па пісанні ікон айцец Павел Заброцкі пераказваў нам свае веды з вялікім ангажаваннем і ўмеў стварыць добрую атмасферу ў час заняткаў. Нам было цікава даведацца, як павінен працаваць сапраўдны іканапісец, а айцец Павел паказаў нам дарогу іканапісца да Хрыста, які па-за мастацкімі здольнасцямі разгортвае ў сябе дар малітвы, вучыцца цярплівасці і пакорлівасці. Пішучы іконы асоба супакойваецца, адкрывае сваё сэрца на Бога і другую асобу і гэты занятак павінен даваць радасць іканапісцу. Пішучы іконы мы самі ў час майстар-класаў супакойваліся, паколькі тады нам лепш было пісаць іконы. У час пачатковых заняткаў мы знаёміліся з падставамі пісання ікон, а пасля была таксама нагода да супрацоўніцтва ў групе, стварыліся паміж намі асаблівыя сувязі. Кожны з нас ангажаваўся, каб як найлепш напісаць ікону і ў гэтую працу кожны з нас уклаў частку сябе, — расказала Наталля з Дубін.

— Мы першы раз пішам тут іконы. Аднак уцягнуліся і гэта нам вельмі падабаецца. Многа часу тут былі, але прыемна яго праводзілі і інтэграваліся ў групе. Айцец Павел цікава расказваў нам пра гісторыю пісання ікон і знаёміў з падставамі гэтага занятку. Мы даведаліся, як рыхтаваць фарбы для пісання і былі здзіўлены, што трэба дабаўляць да фарбы сырыя яйкі, каб узмоцніць іх трываласць. Цікава было пачынаць пісаць іконы, але пабачылі, што гэта складаная праца, якая патрабуе ад нас многа цярплівасці, пэўных мастацкіх здольнасцей і займае даволі многа часу. Спачатку мы працавалі з пэндзлямі асцярожна, а трэба было накладваць фарбы рашуча, адзначаючы контуры на ікона так, каб не дрыжала рука. З часам мы навучыліся як гэта трэба рабіць. Пазней зразумелі таксама, чаму спачатку трэба накладваць цёмныя колеры фарбаў, а пазней пакрываць іх штораз яснейшымі адценнямі і на канец на нашых іконах сталі паяўляцца рысы твару Хрыста. Чакалі мы ажно высахне папярэдні слой фарбы, каб, накладваючы чарговы, не паяўляліся на ёй плямы, — сказалі гайнаўскія белліцэісткі Патрыцыя, Анэта і Юліянна, якія занялі месца за сталом побач сябе і раіліся між сабою, як справіцца з канкрэтнымі праблемамі, што паяўляліся ў час пісання ікон. Дзяўчаты ўдакладнілі, што ў майстар-класах прымае ўдзел ажно пяць вучняў Гайнаўскага белліцэя.

— Мы тут разгортваем свае здольнасці і вучымся як правільна пісаць іконы. Хаця ў час гэтага занятку мы многа тут працавалі, то гэты час быў прыемна праведзены, — гаварылі Марыя і яе брат Павел з Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы.

— Спачатку складана было пачынаць пісаць ікону, але з часам штораз лепш атрымлівалася ў нас пісанне іконы Хрыста. Мы тут цікава правялі час і на перапынках пасябравалі з іншымі вучнямі, — заявіла Зося з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы.

— Я другі раз прымаю ўдзел у майстар-класах па пісанні ікон. Першы раз тры гады таму вучылася пісаць ікону ў час заняткаў наладжаных у прыхадскім доме пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. Там я, так як іншыя ўдзельнікі майстар-класаў, пісала ікону святога дзіцяткі Гаўрыіла. Іканапісанню таксама вучыў айцец Павел Заброцкі, але тады я магла раіцца ў час пісання іконы ў сваёй сястры, якая ў гэтых занятках ужо не прымае ўдзелу, — сказала сяброўка Зосі з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы.

— Сёння мы канчаем пісаць нашы іконы. Папраўляем дэталі, якія ў кожнага крыху горш атрымаліся. Будзем яшчэ падпісваць нашы іконы і чакаць іх асвячэння, каб маглі забраць дамоў і паставіць самастойна напісаныя ў месцы, дзе знаходзяцца іншыя іконы і маліцца перад імі да Спасіцеля і прасіць дапамогі ў вучобе і розных жыццёвых выпрабаваннях, — заявілі ўдзельніцы майстар-класаў па пісанні ікон.

На заканчэнне майстар-класаў кожны ўдзельнік атрымаў у падарунку ад айца Андрэя Буслоўскага кніжку «Вучымся з ікон — Жыціе Іісуса Хрыста». Вучні падзякавалі протаіерэю Паўлу Заброцкаму за ангажаванасць у час заняткаў і арганізатарам майстар-класаў — протаіерэю Андрэю Буслоўскаму і метадысту па навучанні праваслаўнай рэлігіі, матушцы Ліліі Буслоўскай. Вучні, якія напісалі іконы, разам з бацькамі маліліся ў час літургіі 18 кастрычніка ва Успенскай царкве ў Дубінах. Пасля быў адслужаны дабрачынны малебен і настаяцель прыхода айцец Андрэй Буслоўскі асвяціў напісаныя моладдзю іконы, якія вучні забралі дамоў.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Гісторыя свету цішыні — Школа дыялогу ў Залуках

**Галоўнае — вывучэнне мясцовай гісторыі. Вучні аднаўляюць памяць, разбураюць стэрэатыпы, наладжваюць масты ў міжкультурным дыялогу і дзейнічаюць на карысць мясцовай супольнасці. Вучні з Залук прымаюць удзел у Школе дыялогу. Форум для дыялогу гэта адзін з найстарэйшых фондаў, які працуе, каб праціўдзейнічаць праявам антысемітызму. Дзякуючы праграме моладзь пазнае гісторыю яўрэйскай супольнасці. Для іх гэта таксама жывы ўрок гісторыі, часткай якой з'яўляюцца яны самі.**

Школа дыялогу — адукацыйная праграма, накіраваная на азнаямленне навучэнцаў старэйшых класаў пачатковых школ і ліцэяў з гісторыяй яўрэяў у Польшчы і іх укладам у сацыяльнае, культурнае і эканамічнае развіццё нашай краіны. Гэта агульнанацыянальная праграма, але невыпадкова Залукі далучыліся да яе рэалізацыі.








На Гарадоцкай зямлі, як і на ўсім Падляшшы, да вайны існавала вялікая яўрэйская абшчына. На жаль, матэрыяльных слядоў іх прысутнасці засталося не так шмат, таму памяць пра іх трэба захоўваць, асабліва сярод маладога пакалення.

Школьныя праекты ажыццяўляюцца пад моцным кантролем настаўнікаў. Школа для дыялогу прабуе абмежаваць гэты кантроль. Радасць адкрыццяў, спантанныя прыгоды, незалежнасць — гэта ўсё вельмі падабаецца вучням. Часам гэта іх першая ўласная грамадская дзейнасць — трэба самому знайсці інфармацыю, пайсці да старэйшай суседкі, якая мае вялікага сабаку, або адшукаць месцы са старых здымкаў. Школа дыялогу працуе на мадэлі нефармальнай адукацыі, пры якой вучні становяцца незалежнымі даследчыкамі — рыхтуючы праект як доказ памяці аб яўрэйскай гісторыі свайго рэгіёна. Менавіта самі вучні будуць гідамі і самастойна падрыхтуюць экскурсіі па месцах, звязаных з гісторыяй яўрэяў. Таксама вучні ствараюць вэб-сайт, на якім будуць распрацоўваць знойдзены матэрыял (пра гэта напішам больш падрабязна на старонках „Зоркі").

Падчас семінараў, якія праводзяцца спецыяльна падрыхтаванымі выкладчыкамі Форуму для дыялогу, вучні адпраўляюцца ў асабістае падарожжа, звязанае з адкрыццём мінулага ўласнай мясцовасці. Сёлета з-за пандэміі майстар-класы ў Залуках прайшлі анлайн, але не было гэта перашкодай, каб падштурхнуць вучняў да працы.

— Калі вучні адкрыюць не толькі гісторыю мясцовай яўрэйскай абшчыны, але і канкрэтныя твары, людзей і іх гісторыі, імёны дзяцей, якія сядзелі ў адным класе са сваімі бабулямі і дзядулямі, пачынаюць заўважаць, якую вялікую пустэчу яны пакінулі па сабе, — тлумачыць Антоні — аніматар Школы дыялогу. — Удзельнікі семінара часта ўпершыню даведваюцца, што назвы канцэнтрацыйных лагераў гэта не проста кропкі на карце і становяцца месцамі, дзе таксама загінулі яўрэі з іх горада. Гэты момант, калі нашы ўдзельнікі адчуваюць гісторыю ў сваіх сэрцах, часта важней, чым веданне статыстыкі Халакоста.

Гарадок, звязаны з дзейнасцю роду Хадкевічаў, у дакументах згадваецца з другой паловы XV стагоддзя. Хадкевічам таксама трэба прыпісваць пасяленне тут першых яўрэяў у XVI стагоддзі. Першая згадка пра яўрэйскую гміну, якая дзейнічала ў горадзе, паходзіць з 1614 года. Развіццё яўрэйскага насельніцтва найлепш паказвае факт, што ў 1861 годзе ў Гарадку існавалі ўжо тры драўляныя святыні і два малітоўныя дамы. У канцы 80-х гадоў XIX стагоддзя гарадскім старастам быў Бэрка Баруховіч Лядо (не ўлічваючы Тшцяннага, гэта быў адзін выпадак у Беластоцкім раёне, дзе такую пасаду ўзначальваў яўрэй). Да 1939 года з пяці тысяч жыхароў Гарадка чатыры тысячы былі яўрэямі. За пяць гадоў вайны амаль ніхто з іх тут не застаўся — большасць з іх загінула ў лагерах смерці, а астатнія эмігравалі ў Ізраіль і іншыя краіны. Жыхары суседніх вёсак і рэпатрыянты з Усходу пераехалі ў яўрэйскія дамы, якія перажылі вайну. Сёння на яўрэйскіх участках знаходзіцца цэнтр Гарадка — грамадскі офіс, банк, школа і большасць дамоў. Другая сусветная вайна паклала канец шматвяковай гісторыі яўрэяў Гарадка. Гэтую гісторыю ў 2006 годзе даследавала моладзь пад наглядам настаўніцы Ірэны Матысюк з мясцовай гімназіі. У рамках Школы дыялогу вучні сарганізавалі шпацыр па яўрэйскім Гарадку. Кульмінацыйным момантам было адкрыццё мемуарнай дошкі імя доктара Льва Цукермана.

Свае маленькія знаходкі маюць ужо таксама вучні школы ў Залуках. Мацек і Міхал — вучні, якія жывуць у Пяшчаніках — дакапаліся ў інтэрнэце да гісторыі Беніяміна Амдурскага, які быў уласнікам мануфактуры ў іх вёсачцы.

— Мама сказала, што варта пашукаць больш падрабязную інфармацыю, — тлумачыў у час заняткаў Мацек. — Мне ўдалося знайсці вестку, што ў Пяшчаніках мануфактура знаходзілася на скрыжаванні ракі з былой трасай, якая злучала Беласток і Ваўкавыск. На фабрыцы працавалі практычна толькі мясцовыя сяляне, якія таксама перавозілі сыравіну з Беластока на фабрыку, а гатовае палатно вазілі ў Беласток.

Некаторыя вучні не ведалі гэтай гісторыі, а менавіта яны падбудоўваюць нашу мінуўшчыну. Таму лёгка часам палічыць сваю ваколіцу месцам без гісторыі, нецікавым і глухім.

— Размова з моладдзю не пра вялікую польскую гісторыю, а пра найменшыя факты — хто дзе жыў, як працаваў млын — прымушае іх пачаць глядзець на свой горад ці вёску іншымі вачыма, — тлумачыць аніматар Антоні. — Цікавасць да месца надзвычай важная пры такой спантаннай працы ў рамках Школы дыялогу. Культурны і сацыяльны капітал можна заснаваць на тым, ці звязаны мы з месцам пражывання і ці мы задаволены. Тут вы можаце ўбачыць эфекты гэтай праграмы. Не размаўляем выключна аб яўрэйскай меншасці, але праз гісторыю і расказы канкрэтных людзей з іх асяроддзя паказваем неад'емную частку свету іх продкаў — гарадоцкіх яўрэяў.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## Алені па агародах ходзяць

У Белавежскай пушчы павялічылася колькасць дзікай жывёлы — перш-наперш дзікоў, сарнаў, ласёў, рысяў і зуброў. І яны ўсё часцей выходзяць з лесу на лугі і поле ды не толькі сюды. Цяпер шматлікія вёскі Нараўчанскай міны Гайнаўскага павета малалюдныя. Многа тут пустых сялянскіх сядзіб. Зараз у розныя поры дня дзікія капытныя пачалі шнырыць па бульбянішчах ды агародах і садах, між іншым, у Плянце, Лазовым, Міклашэве, на калёніі Новага Ляўкова.

Зараз у Плянце Нараўчанскай гміны каля пустых хат у невялікіх садках падаюць на зямлю яблыкі і грушы. Сюды занадзіліся алені. Яны не толькі — як у песні — па бору ходзяць. Яны паціху, паціху наслухоўваюць ды скрадаюцца бліжэй чалавечага жылля. У іх закончыліся шлюбныя перыяд і бітвы за свабодных самак і яны рушылі шукаць сабе..., хто б падумаў, сакавітых яблык. У апушчаных і без платоў садах ды агародах, некалі поўных усялякай агародніны, яны трапляюць на салодкую ім шаўкавістую траву і ласуюцца ёю. **(яц)**

## Сакольская дэмаграфія

У Сакольскай гміне 45 салэцтваў. Гміна займае плошчу ў 314 квадратных кіламетраў, што складае 15% тэрыторыі Сакольскага павета. Шчыльнасць насельніцтва ў гміне 83 чалавекі на 1 квадратны кіламетр. Сакольская гміна па-суседску з Чорна-Беластоцкай, Янаўскай, Кузніцкай, Сідраўскай, Супрасльскай і Шудзялаўскай гмінамі ды мяжуе з Беларуссю. У Сакольскай гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Многа ўдоў ва ўзроставай групе 80 і больш гадоў — у тры разы больш чымсьці мужчын.

Найбольшыя вёскі Сакольскай гміны гэта Старая Камёнка, Богушы, Красняны, Ліпіна і Сакаляны, сярэднія — Номікі, Слойнікі, Старая Разадранка, Павэлкі, Новая Камёнка, Новая Разадранка, Куроўшчына, Глінішчы-Вялікія, Драглі і Янаўшчына ды меншыя — Геніюшы, Ігрылы, Плебанаўцы, Страж, Малявічы Дольныя, Арловічы, Шышкі, Задвараны, Панятовічы, Бабровнікі, Заспіча, Падкамёнка і Кундзічы.

Малымі і самымі малымі паселішчамі Сакольскай гміны з'яўляюцца Дамброўка, Галянскія Агароднікі, Татаршчына, Карчы, Воўчая Яма, Пад'янbackўшчына, Стадольнае, Сцебелец, Пакантароўка, Казловы Луг, Ліпавая Гара, Тартак, Паўлоўшчына, Замчыск, Гнідзін, Новая Мачальня, Пагібло, Врочыншчына, Багушоўскі Выган, Засцянкі (іх тры), Двожыск, Верх'едліна, Астравок, Гільбоўшчына, Маслянка, Шындзель, Стары Шор і Бухвалова. **(яц)**

## Ёсць такія аўтобусныя прыпынкі

Жалезныя слупкі з лагатыпам PKS стаяць на трох аўтобусных прыпынках пры ваяводскай дарозе № 687 у Новым Ляўкове і каля новаляўкоўскага хутара Лазовае Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Яны на вузкіх абочынах рухлівай артэрыі і над равамі. На слупках няма раскладаў язды аўтобусаў. На месцы прыпынкаў расце высокая трава ды пасля дажджу стаяць лужы, аж пакуль не высахнуць.

Пасажыры чакаюць „свайго" аўтобуса на... маставой, а гэта ж вельмі небяспечна. Гмінныя ўлады дагэтуль не паклапаціліся пра вышэйзгаданыя прыпынкі. А тут патрэбны жвір, тратуарныя пліткі або брусчатка і навесы. Пад дашкам было б дзе схавацца ад восеньскага дажджу ды снежнай завеі. Ідзе год за годам і пасажыры толькі наракаюць. **(яц)**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Віктар Швед — наш Паэт

Перад вачыма ўсё стаіць адзін візіт Віктара Шведа ў «Ніве». Ён, па старой звычцы, завітаў у чацвер па новы нумар газеты. А тут госці — да нас прыйшлі дзеткі з праваслаўнай школы з Іааннай Марко. Усе яны ведалі паэта, ды папрасілі, каб ён прачытаў некалькі сваіх вершаў. Віктар Швед з ходу падняў выклік, ды не толькі ўзбагаціў нашу сустрэчу жывой чытанкай. Ён яшчэ паставіў аўтографы дзеткам ля сваіх вершаў, якія друкаваліся ў новым нумары «Зоркі». Усе былі захоплены нечаканай, цудоўнай аўтарскай сустрэчай.

Гатоўнасць несці роднае слова для дзяцей і дарослых беларусаў явілася сэнсам жыцця паэта. Уражвала яго нястомнасць і радасць ад кожнай публікацыі. Яшчэ ў дзевяноста гадоў ён ездзіў на сустрэчы ў школы і рэгулярна пісаў вершы.

— Калі пішу, значыць я яшчэ жывы ў творчым сэнсе, — паўтараў.

Для «Зоркі" ён быў самым верным сябрам і жывым натхненнем. Яго вершы друкаваліся на нашых старонках з 1957 года, а з 1994 года ён меў пастаянную рубрыку. Яго чыталі нашы бабулі, бацькі ды нават прадзеды і прабабулі. Віктар Швед дзяліўся сваёй энергіяй у незвычайны спосаб. Яго вершы ўпляталіся ў агульны змест старонкі, узбагачаючы яе інтэлігентным гумарам і культурай слова. Як першыя чытачы мы часта абмяркоўвалі іх змест у рэдакцыі, смяяліся і цешыліся як дзеці. Паэт мэтанакіравана не пісаў пра страшныя, прыкрыя рэчы. Ён паўтараў, што трэба ахоўваць дзяцей перад траўмамі і жудасцямі свету, бо яны яшчэ паспеюць насумавацца ў сваім жыцці. Словы чалавека, які творча і інтэлігентна пражыў амаль цэлае стагоддзе, былі для нас мудрым, жыццёвым указальнікам. А сам паэт явіўся як селебрыці ў класічным, станоўчым сэнсе. Віктар Швед — самы вядомы беларус Падляшша. Незабыўнымі астануцца і яго юбілеі, дзе інтэграваліся беларусы ўсіх пакаленняў і палітычных поглядаў. Таму з нявыказаным жалем, але і пашанай мы развіталіся з паэтам у суботу 24 кастрычніка г.г. У гэты дзень раніцай, як у яго вершах, «плакала» неба, але калі паэт адправіўся ў дамавінцы з Беластока ў роднае Мора, свет праясніўся залатымі восеньскімі колерамі і напоўніўся спакоем. А мы ўсе ў думках паўтаралі словы яго верша, выспяваныя гуртом «Белы сон»: «Вось ізноў я ў вёсцы Мора. І цешыцца надзвычай сэрца...»



Віктар Швед з вучнямі Іаанны Марко з беластоцкай праваслаўнай школы ў «Ніве»

Мы таксама рашылі аддаць свой нізкі паклон і словы ўдзячнасці паэту, вуснамі яго вучняў — літаратараў, рэдактараў, настаўнікаў роднай мовы, чытачоў і людзей, якім паэт прысвяціў свае вершы.

Як першаму слова дамо паэту, мастаку і земляробу Віктару Стахвюку, які прыехаў на пахаванне з Трасцянкі:

— Мне было 11 год, калі ў нашу школу прыехаў Віктар Швед, — успамінае сёння 71-гадовы аўтар «Sivoj zazuli" (кніжкі пра родную Трасцянку на падляшскай мове). — Мы, вучні, паслухалі яго вершы і на канец Паэт запытаў, ці хто сярод нас таксама піша. Вучні паказалі на мяне. Я прачытаў свой верш. Віктар узяў тры мае вершы з сабой і адзін малюнак ды апублікаваў гэта ў „Зорцы". Дзякуючы Яму я стаў пісаць.

Таксама дзіцячым сэрцам запамятала паэта Анна Франкоўская, сёння настаўніца роднай мовы ў Орлі. Орля — бліжэйшая радзіма паэта. Тут ён хадзіў у Пачатковую школу і тут напісаў першыя вершы. Гэта была настолькі сенсацыйная падзея, што настаўніца спытала: Przyznaj się bracie, skąd przepisałeś ten wiersz? Маладому паэту стала крыўдна і ён расплакаўся ад такой заўвагі. Аднак на наступных уроках ён даказаў, што самастойна складае прыгожыя радкі і тая самая настаўніца абвясціла: Oto mamy w klasie poetę. Гэты эпізод на трывала сплёўся з даваеннай Орляй, дзе, на жаль, не было яшчэ беларускай мовы ў школе. Сёння там ведаюць і чытаюць Віктара Шведа:

— Яшчэ ў маёй Пачатковай школе ў Гайнаўцы, — успамінае цяперашняя настаўніца, — да нас прыехаў вялікі госць. На сталоўцы сабраліся вучні са школы. Гэта быў Віктар Швед. Мужчына ўжо ў сталым, тады мне здавалася, узросце, але вельмі вясёлы, ветлівы, цёплы. Чытаў нам свае вершы, смяшынкі... На канец сустрэчы падпісваў свае зборнікі вершаў. Я свой падпісаны зборнік трымаю ў хаце, а калі трэба паказваю вучням на ўроках беларускай мовы. А мне было тады пад дзевяць гадоў. З таго часу ён трывала жыве ў маёй душы.



З вучнямі бельскай «тройкі» і настаўнікамі Валянцінай Бабулевіч, Верай Міхноўскай і Андрэем Марозам

Студэнт Варшаўскага ўніверсітэта Максім Фіёнік, яшчэ будучы вучнем бельскай «тройкі», як ніхто наблізіўся да арлянскіх гадоў паэта. Разам з братам яны сыгралі ролю арлянскіх вучняў пры санацыі, калі сярод аднакласнікаў было шмат яўрэяў. Адзін з іх Янкель Шумахер быў лепшым сябрам паэта.

— Віктар Швед гэта культавая фігура сярод вучняў белліцэя і беларускай пачатковай школы ў Бельску, — кажа Максім. — Яны знаюць творчасць паэта з маладых гадоў, калі

на ўроках чыталі яго вершы ў «Зорцы». Таму многа маіх малодшых сяброў не магло паверыць, што спадар Віктар адышоў. Яго пастаць бліжэй я пазнаў у 2013 годзе, калі да Студзіводаў прыехалі здымаць фільм пра яго жыццё. Мой брат Ільля меў іграць маладога Шведа, а я яго найлепшага сябра Янкеля Шумахера. Нам гэтыя ролі так вельмі спадабаліся, што мы пазней многа месяцаў ігралі ў гульню „Швед і Шумахер", дзе Віктару трэба было знайсці Янкеля і наадварот. Калі мы ўпершыню ўбачылі фільм, больш зразумелі часы, у якіх ён жыў і пабачылі якое цяжкае ў яго было дзяцінства. Віктар Швед таксама шмат разоў прыязджаў у бельскую «тройку» на аўтарскія сустрэчы.

Настаўніца Валянціна Бабулевіч запамятала паэта як надзвычай добрага чалавека:

— Спадар Віктар Швед вельмі любіў і разумеў дзяцей. Гэта відаць не толькі ў вершах. Я бачыла як Ён паводзіў сябе на шматлікіх аўтарскіх сустрэчах у школе, з якой павагай ставіўся да кожнага дзіцячага пытання. Ён застанецца ў маёй памяці як вельмі добры, сардэчны і цёплы чалавек, але таксама як вялікі змагар за нашу беларускую тоеснасць тут, на Беласточчыне. На Яго вершах выхаваліся ўжо тры пакаленні беларусаў і я ўпэўненая, што выхавaецца яшчэ не адно, бо вартасці, закранутыя ў шматлікіх вершах — звышчасовыя. Паэт у простай, зразумелай форме, часта з гумарам, умеў перадаць самыя важныя каштоўнасці ў жыцці чалавека.

Пра разуменне і любоў да дзяцей гаворыць Ангеліна Масальская — настаўніца роднай мовы ў Белавежы. У час апошняй нашай сустрэчы, яе дзеткі прывіталі «Зорку» вершамі і песнямі на словы Віктара Шведа. Сярод навучэнцаў шмат дзяцей польскай нацыянальнасці. Звестку пра смерць паэта яна прачытала на фейсбуку.

— У пэўнай хвіліне паявіўся здымак з усмешкай на твары Віктара Шведа а ўнізе падпісана: „22 кастрычніка пайшоў з жыцця Віктар Швед", — заяўляе настаўніца. — І хаця я ведала, што наш паэт гадамі ўжо немаладзенькі, але такой інфармацыі не чакала. Першая мая думка: беларуская дзіцячая літаратура Падляшша без Віктара Шведа? Вершы Віктара Шведа спадарожнічалі мне ад самых школьных гадоў, а радкі з верша „Родная мова" застануцца назаўжды ў маёй памяці. Мае вучні вельмі ахвотна дэкламавалі вершы Спадара Віктара, а малодшая група калектыву „Сунічкі" спявала песні на словы Яго вершаў. Гэта вялікая страта для беларусаў Беласточчыны. Пайшоў з жыцця чалавек, які вельмі любіў дзяцей і моладзь, які большую частку сваёй творчасці прысвяціў дзіцячай літаратуры.

Віктар Швед як мала хто цаніў працу і энтузіязм настаўнікаў ды некаторым з іх прысвяціў свае вершы. З захапленнем і пашанай ён успамінае настаўніцу Аліну Ваўранюк з беластоцкай „чацвёркі" на старонках сваёй навейшай кніжкі «З горада ў Мора». Узаемная сімпатыя і пашана выспела ў творчасці і шматлікіх мерапрыемствах.

— З гэтым чалавекам я пазнаёмілася ў дзяцінстве праз Яго вершы, — кажа Аліна Ваўранюк. — Мы іх чыталі на ўроках беларускай мовы. А потым Ён наведаў нашу малінніцкую школу. Першы жывы паэт, якога я пабачыла ўжывую. Гэта была першая сустрэча з Віктарам Шведам. У 1997 годзе мы зноў сустрэліся ў школе. На гэты раз у беластоцкай „чацвёрцы". Я стала настаўніцай беларускай мовы Натанькі. Гэта быў для мяне вялікі гонар. Вучыла яе ажно да заканчэння гімназіі. Спадар Віктар быў адным з найбольш анагажаваных бацькоў. Ён прыходзіў на ўсе мерапрыемствы, ездзіў на экскурсіі, ахвотна сустракаўся з вучнямі і іх бацькамі. Заўсёды з усмешкай, ахвотны на размову, цікавы свету. Нават, калі Наталля была ўжо студэнткай, а і яшчэ пасля прыходзіў на сустрэчы Дыскусійнага клуба амаль заўсёды. Апошні раз мы бачыліся на калядным «Спеўным сходзе» ў нашай школе. Самы актыўны чалавек у сваім узросце, добры, сардэчны, кахаў людзей і мы Яго кахалі.

А калі гаварыць пра ўплыў на пакаленні беларусаў Падляшша, найлепш гэта адлюстроўвае развітальнае слова ліцэісткі і цудоўнай фотамадэль Веранікі Кардзюкевіч. Яе школьныя, патрыятычныя вершы настолькі спадабаліся паэту, што ён прысвяціў ёй асобны твор «Вераніка», дзе параўнаў дзяўчынку да музы Максіма Багдановіча. Сёння, пасля гадоў, яна сама напісала развітальнае слова і падзяку любімаму паэту:

***Віктар Швед,***

*Дзякуй, што паказалі, як любіць Беларусь.*

*Дзякуй за парады з вершаў аб тым, што сапраўды важна ў жыцці.*

*Дзякуй за паззію, з якой я мела зносіны з юных гадоў.*

*Дзякуй за тое, што былі літаратурным кумірам, які натхніў мяне сваёй творчасцю.*

*Дзякуй за праяву добрых якасцяў Беласточчыны.*

*Дзякуй за тое, што навучылася цаніць тое, што наша — беларускае.*

*Дзякуй за верш „Вераніка", дзякуючы якому я паверыла ва ўласныя магчымасці.*

*Дзякуй за кожную сустрэчу і несыходную з твару ўсмешку.*

*Дзякуй.*

* * *

Дарагі Спадар Віктар! Вы ўжо развіталіся са сваімі роднымі мясцінамі, са сваёй дарагой Беласточчынай. Няхай зямля будзе для Вас пухам. Назаўсёды застанецеся ў нашых сэрцах і памяці!

**Фота і тэкст**
**Ганна КАНДРАЦЮК**



З вучнямі Аліны Ваўранюк з беластоцкай «чацвёркі»



Паэт ставіць аўтограф Марысі Пякарскай



Віктар Швед падпісвае кніжку Віктару Паўлоўскаму



На XII Сустрэчах Зоркі ў Нарве

# На Шведа раўняй! Жыві і стварай!

**Віктар Швед** за сваё доўгае і карыснае жыццё напісаў столькі прысвечанага нам, што ніколі яму не аддзячым. І я, Яго вучаніца, вершам магла і магу хоць крышку аддаць яму належнае. Пакуль былі гадавінныя словы-віншаванні і пажаданні, каб былі зыркія заўсёды вочы васільковыя, а кожная хвіліна шчасная і новая... Так як у яго апошняй кнізе, якую, новенькую, важкую адчуў у сваіх цёплых руках, прывезеную ад роднай «Нівы» тыдзень перад сваім адыходам на нябесныя нівы. А гэта кніга ўспамінаў — і запавет.


Фота Адама Паўлоўскага

Гэта другі том успамінаў пасля «З Мора ў горад» — „З горада ў Мора”, які ахоплівае чарговыя 30 гадоў. А выдаў раней 16 зборнікаў вершаў: „Жыццёвыя сцежкі” (1967), „Дзяцінства прыстань” (1975), „Дружба” (1976), „Мая зялёная Зубровія” (1990), „Родны схоў” (1991), „Вясёлка” (1991), „Wiersze wybrane” (1997), „Вершы Натальцы” (1998), „Выбраныя вершы” (2000), „Lata wiatr skrzydlaty” (2000), „Śmiech nie grzech” (2000), „Мае Айчыны” (2003), „Przemijanie” (2006), „Смяшынкі” (2009), „Śmieszynki” (2010), „Адплываем з Мора” (2010). Першы том ўспамінаў — „З Мора ў горад” (2015) ахоплівае міжваенны час, Другую сусветную вайну і пасляваенны перыяд да 1987 года. А апошняя кніга пачынаецца з часу, калі Віктар Мікітавіч выйшаў на пенсію, але не складаў рук, аж да 2018 года. І хіба за гэты час зрабіў ён найбольш. Віктар Швед — паэт, перакладчык, журналіст, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора непадалёк Гайнаўкі на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. Закончыў Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім, Акадэмію палітычных навук у Варшаве, аддзяленні журналістыкі і беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Доўгі час працаваў у варшаўскім выдавецтве „Książka i Wiedza”. Быў сузаснавальнікам Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”, сябрам Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Перакладаў з беларускай, рускай, украінскай моў на польскую, з польскай — на беларускую. Дэбютаваў 24 сакавіка 1957 г. вершам „Я — беларус” у тыднёвіку „Ніва”. Пісаў на беларускай і польскай мовах. Выхаваны на традыцыях беларускай класічнай літаратуры, Віктар Швед працягваў іх на Беласточчыне: паэтызаваў паўсядзённы побыт селяніна, повязь дзіцячых адчуванняў з гарманічным светам прыроды. Віктар Швед уносіў істотны ўклад ва ўзаемадзеянне літаратур.

У першай кнізе паэт прыгадвае эпізоды з дзейнасці ў БГКТ, сустрэчы з Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Піліпам Кізевічам, Яўгенам Аніськам, з амерыканскімі беларусамі. Аўтар апісвае таксама незвычайныя індывідуальнасці, якія сустрэў на дарозе свайго жыцця. Сярод іх знаходзім партрэты прафесара Васіля Белаказовіча, Міколы Гайдука, Пятра Ластаўкі, Кастуся Майсені, Мар'яна Пецюкевіча, Янкі Жамойціна. Успомніў таксама землякоў, якія пасля Другой сусветнай вайны апынуліся ў Беларусі: Уладзіміра Казберука, Яўгена Міклашэўскага, Серафіма Андраюка, Аляксея Карпюка. Прыпомніў ужо крыху прызабытых мастакоў: Міхася Забэйду-Суміцкага, Станіслава Казуру, Эдварда Гойліка, Земавіта Фядэцкага і Юзафа Рыбінскага... Прыгаданы таксама Павал Сламянка, Зінаіда Грыцкевіч, Галена Панько, Людміла Панько, а. Серафім Жалезняковіч, Георгій Голуб, Ціхан Антасюк, Васіль Літвінчык. Пісаў пра яго сябра, пісьменнік, выхадзец з Падляшша Яўген Міклашэўскі: «Кніга ахоплівае падзеі чалавечага лёсу і даваенных, і пасляваенных пакаленняў беларускага насельніцтва беластоцкага краю. У ёй — водгук жыцця апошніх трох чвэрцяў ХХ стагоддзя, калі за кропку адліку ўзяць год нараджэння яе аўтара. Што ж адбылося за гэты час на Беласточчыне? Адгрымела Другая сусветная вайна, канчаткова вызначыўшы межы Польшчы і Беларусі. Ці захавала насельніцтва гэтага краю свае звычаі, абрады, мову і песні? Нешта захавала. Беларускія сяляне могуць яшчэ і паразмаўляць па-беларуску і паспяваць у застоллі свае спрадвечныя песні. А вось моладзь, іх дзеці і ўнукі, амаль не ведае ні сваёй роднай мовы, ні песень. Яна асімілявалася, і ў гэтым ёй памаглі яе бацькі, дзяды і бабулі. У беларусаў няма імунітэту ад асіміляцыі, ад разбурэння свайго нацыянальнага ўкладу жыцця і страты духоўнай спадчыннай культуры. Такімі зрабіў беларусаў на працягу некалькіх апошніх стагоддзяў іх гістарычны лёс. Беларусы ў Польшчы — нацыянальная меншасць, і асіміляцыя тут — з'ява як быццам што заканамерная. Дзякуючы Віктару Шведу мы тут засталіся і застаемся». Пятро Маляўка: «Менавіта вера ў спрадвечнасць і незнішчальнасць родных каранёў і каштоўнасцей жыцця, любоў да роднай мовы, добразычлівае стаўленне да навакольнага свету, сапраўднага шчырага сяброўства складаюць праблемна-тэматычную сферу і ўнутраны пафас паэзіі Віктара Шведа, выдатнага беларускага паэта і грамадскага дзеяча, які нарадзіўся ў вёсцы з загадкавай назвай Мора... Паэт душэўна просіць,каб яна не знікала ў небыццё. Шчыра заклікае ўсіх тых, хто насамрэч лічаць сябе беларусамі: *Мову родную беражы! Мовай роднай даражы!..* Характарызуецца гэтае звяно непарыўнай повяззю пакаленняў, паколькі сённяшнія дарослыя — гэта ўчарашнія дзеці, а сённяшнія дзеці — гэта дарослыя заўтра. І як мы да іх паставімся, як яны будуць выхаваны, залежыць вельмі і вельмі шмат ад усіх і кожнага».

*«Дадзены нам, доня, рукі/Да работы, да навукі,/Падымання і трымання,/Да вітання, да ласкання,/Яды страваў улюбёных/І да ўласнай абароны./Рука руку заўжды мые...* Віктар Швед, і як бацька, і як мастак слова, быццам бы скіроўвае кожнага з нас у сваё дзяцінства, адкуль мы выйшлі... Таму Віктар Швед у новай кнізе так многа месца аддаў новаму пакаленню беларусаў, якое выхавалася на яго творчасці і пайшло яго следам.

Кнігу «З горада ў Мора» прысвяціў прадстаўнікам малодшага пакалення нашых беларусаў Барбары і Міраславу Пякарскім, якіх ён найчасцей сустракаў на беларускіх мерапрыемствах. Гэта памятка пра жыццё нашых тут беларусаў. Дзякуючы занатоўкам Віктара Шведа мы разумеем важнасць тых дэталяў з сямейнага, асабістага і грамадска-палітычнага жыцця Віктара Шведа, яго паплечнікаў і сяброў, якія ўтравалі наш родны дом. «Успаміны трэба ўпарадкаваць, як мэблі дома, у кнізе — слова» — цытуецца на ўступе верш Віктаравага сябра паэта і ветэрынара Францішка Кабрынчука. І пачынае аўтар сваю кнігу ўспамінаў ад моманту, калі пайшоў на пенсію 30 верасня 1987 года. Думаў пра родную Беласточчыну, «якую скалясіў уздоўж і ўпоперак, пра процьму (тысячу!) аўтарскіх сустрэч са школьнікамі і дарослымі»... Вярнуўся ў Беласток, «дзе знаходзілася мая газета “Ніва” мае сябры з Беларускага грамадска-культурнага таварыства, маё кроўнае аб'яднанне «Белавежа». І тут пачынаюцца ўспаміны, якія ўбаччу бачыла і я, будучы прысутнай на сустрэчы майго вядомага ад дзяцінства аўтара 5 чэрвеня 1988 года з Валяй Казімерчык — і ў 2018 годзе адсвяткавалі трыццацігоддзе супольнага жыцця, з дачушкай Натальяй, якая нарадзілася ў 1990 годзе. «Тата ўбачыў яшчэ маё шчасце», — прызналася на пахаванні бацькі Наталля, якая пару месяцаў таму выйшла замуж. У той час адыходзіў на пенсію Георгій Валкавыцкі, які 32 гады вёў іхнюю родную «Ніву», на якой выхоўваліся мы — дзеці «Зоркі» і «Нівы», якія таксама паспелі пасівець і прывесці да яе маладзейшых. А і з намі, і з нашымі дзецьмі, ды нават унукамі заўжды быў Віктар Швед. Віктар Швед скрупулёзна пералічвае важныя падзеі і постаці, не абмінаючы сваіх самых маладых калег-вучняў, нават дашкольнікаў, і іх крокаў па роднай беларускай «Ніве» — і на Беласточчыне, і ў Варшаве ці Гданьску. Кожная падзея важная, кожная асоба — немагчымая для абмінання. Гэта і дзеячы, іх дзеянні, месцы якія засталіся ў памяці. Пра дакладнасць дадзеных у гэтай хроніцы беларускага культурнага жыцця дбаюць найбольш Валянціна Швед і рэдактар выдання Лена Глагоўская, якая як навуковец і такі ж скрупулёзны і дбайны аўтар дадае ў некалькіх спасылках — дзе друкаваліся творы, хто калі адышоў са Шведавых паплечнікаў і блізкіх. Тут не толькі беларусы, але і прадстаўнікі іншых народаў, якія таксама рупліва дбалі аб культуру і жыццё на Беласточчыне як кашуб Казімеж Максімільян Дэркоўскі — дырэктар Ваяводскага дома культуры, але ёсць і юбілейныя, але не пампезныя ўспаміны напрыклад пра дзейнасць Сяргея Лукашука, Сцяпана Копы, аўтараў нiўскіх і белавежскіх, дзеячах Беларускага грамадска-культурнага таварыства (дзе Віктар Швед быў ва ўладах і сярод самых нястомных актывістаў), Беларускага аб'яднання студэнтаў... І не забывае ні пра адну асобу — усе яны важныя для яго, са здымкамі. Вось «17 снежня 1988 года ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ адбыўся Першы З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў, якое было зарэгістравана 29 лістапада гэтага ж года. На З'ездзе былі выбраны Галоўная рада БАСу і Рэвізійная камісія. У Прэзідыум Галоўнай рады ўвайшлі Яўген Вапа — старшыня, Юры Каліна і Ян Пляскові — намеснікі старшыні, Барбара Кучынская — сакратар, Ганна Матысюк — скарбнік, Аляксандр Карпюк і Георгій Грыгарук — члены. Апрача таго членамі Галоўнай рады сталі Алег Латышонак, Вячаслаў Харужы, Данута Мароз і Мікола Ваўранюк». І далей — выступы і дасягненні наймалодшага пакалення, што яшчэ так нядаўна хадзіла ў беларускі садок, а якое цяпер ужо студэнты, і ў некаторых ужо дзеткі — наступныя чытачы і наследнікі Віктара Шведа. І на здымках — усе яны — працуюць, выступаюць, яднаюцца, святкуюць, пішуць, вучацца, вучаць, перадаюць досвед. Повязь гадоў і душ. Беларусы свету і беларусы малой айчыны. «А зараз хацелася б, каб усе вучні, якія прыходзяць у Бельскі ці Гайнаўскі ліцэй вельмі ўважліва ўслухоўваліся ў словы сваіх дырэктараў і настаўнікаў беларускай мовы, бо яны — цяперашнія Кастыцэвічы...». Які ж уплыў аказаў Віктар на нас усіх, каму на сэрцы беларушчына не камень, а жывы агняцвет, які расцвельвае нашы думкі і пачыны, і свеціць звычайным будням дзеля захавання і развою. Цэлыя артыкулы ў кнізе Шведа пра іх — Алеся Барскага, Вінцука Склубоўскага, Надзею Артымовіч, Анатоля Краўчука, Сымона Раманчука, Міхася Хмялеўскага, Анатоля Сыса, Паўла Дэйкалу, мерапрыемствы ладжаныя ў Студзіводах, у Варшаве, Гданьску, Мінску, у Гродне, у Бельску, у родным Беластоку. Пра хрысціянскае экуменічнае аб'яднанне «Oikumene”, Беларускае гістарычнае таварыства, Аб'яднанне Польшча-Беларусь, Беларускія трыялогі, «Бязмежжа», «Часопіс», радыё Рацыя, «Хатку» ў Гданьску. Урачыстыя вечарыны паэзіі і і звычайныя сустрэчы ў школах, на дэкламатарскіх конкурсах, творчыя юбілеі ў «Ніве», «Белавежы» і беластоцкім аддзеле Саюза польскіх літаратараў, мастацкія сустрэчы «Гродна-Беласток», супрацоўніцтва з музычнымі гуртамі, для якіх Віктар даваў словы да іх песень... З уздымам напісана, і часам жартам, як у апісанні дарогі ў Мінск і святкавання свайго 75-годдзя. Віктар Швед, творца і скрупулёзны хранікёр, у сваіх успамінах аналізуе таксама свой і сваіх калег жыццяпісы. А час так плыве... *Уплывае час нам хуткацечны з нас ніхто тут на зямлі не вечны... Хочацца на свеце тым гасцінным заслужыць на добрыя ўспаміны, выпадковым каб не быць нам тут, калі свой пакінем родны кут* (2019). Віктар Швед пералічвае важнейшыя даты ў сваім беларускім грамадскім жыцці, падзеі пісьменніцкага, навуковага і педагагічнага асяроддзя. Тут даведваемся і пра сяброў з польскага пісьменніцкага асяроддзя (Ян Леанчук, Яўген Шульборскі...), усіх, да якіх Віктар Швед меў творчае і асабістае дачыненне. Піша пра ўсіх з чуласцю і ўвагай, прыводзячы факты з іх жыцця, анекдоты, проста і звычайна. Пра каго ўспомніў у сваёй хроніцы, іх прозвішчы прыведзены ў багатым імянным паказальніку на канцы кнігі — ад вучаніцы Аліны Ваўранюк, Ясміны Абоў-Гіляль, да даследчыцы і сяброўкі Тэрэзы Занеўскай і бібліятэкара з Падляшскай ксёнжніцы Данеля Знамяроўскага. А найбольш — пра «ціхіх працаўнікоў культуры», на якіх яна мацуецца цяпер і на вякі.

Ува мне ўсё Віктар Швед.  
Як след.  
Як крок.  
Як цень,  
што лёг  
перада мною,  
перад намі.

Гэта канец майго дзяцінства. І крок уперад, і абяцанне Віктару Мікітавічу.

Міра ЛУКША

# У арлянскай школе разам з жыдамі

**У арлянскай Пачатковай школе да паловы 1941 года — калі адступілі саветы, а ўвайшлі немцы — вучыліся разам хрысціяне і жыды. Паводле захаванай „Księgi głównej ocen postępów uczniów w nauce na rok szkolny 1930/1931” у Публічнай агульнай школе ў Орлі вучылася агулам 333 вучні, у тым ліку 163 жыдоўскія. У навучальным годзе 1934/1935, паводле „Księgi ocen...” наведвала школу 458 вучняў, у іх ліку 220 жыдоўскіх, што складала 48%.**

Можна сказаць, што гэта не так даўняя гісторыя, бо ў такую школу хадзілі яшчэ нашы бацькі, дзяды, якіх сёння, на жаль, ужо вельмі мала асталося. Адыходзяць назаўсёды сведкі таго часу, тадышняга шматкультурнага жыцця. Дзякуючы даследчыкам гісторыі, якія самастойна натужыліся паразмаўляць з імі і ўсё запісаць, пакінулі тыя сведкі не толькі ўспаміны, але і сведчанне пра сябе.

Гаворыцца, што гісторыя з'яўляецца настаўніцай жыцця. Сапраўды! Тая нядаўняя гісторыя паказвае, якімі былі мы самі і як ставіліся да іншых. Гісторыя найлепш вучыць, якімі павінны мы быць, каб пасля ацэньвалі нас так, як бы мы самі хацелі, значыць — добра. Гісторыя схіляе да задумення і самаацэнкі.

Хачу прадставіць Чытачам запісаныя мною некаторыя фрагменты ўспамінаў арлянскіх старажылаў, якія знойдуцца ў маёй кніжцы «Księga pamięci chrześcijan o Żydach Orli».

**Успамін Уладзіміра ПАСЕЧНІКА**, 1929 года нараджэння з Орлі («Жыды добра вучыліся», «Ніва» ад 03.03.2019 г.):

— Жыды добра вучыліся, лепш чым жыдоўкі. У класе было менш жыдовак. Са мною ў парце сядзеў такі, меў вузкі лоб, добра вучыўся. Жыды вельмі смярдзелі цыбуляй. Саланіны не елі, але не здаралася, каб нехта ў школе мазаў іх саланінай — гэтага не было!

**Успамін Яўгеніі ПАСЕЧНІК** з роду Амельяновіч з Орлі (1932-2017), («Цяжка было жыць», «Ніва» ад 27.07.2012):

— Добра помню арлянскіх жыдоў. Жыды добра вучыліся. Давалі нашым дзецям спісваць задачы, а часам нават прыходзілі дадому дапамагчы ў вучобе. Узамен спадзяваліся, што нашы не будуць іх падшчыпваць у школе. Жыдоўскія дзяўчыны нават булкі ў школу прыносілі дзеля подкупу, каб спакойна вучыцца.

**Успамін Лявона МУРАЎСКАГА**, 1930 года нараджэння з Орлі:

— Любілі мы школу. Пачынаў навуку ў будынку, у якім пасля вайны, аж да 1980-х гадоў, дзейнічала прадшколле. Сядзеў у адной парце з жыдам. Усе хрысціяне сядзелі з жыдамі. І было з імі вельмі прыемна. Ну, але яны мелі свае жыццёвыя прынцыпы, асабліва не прызнавалі свініны. А ў той час што ў хрысціян было ў канапку ў школу? Найчасцей хлеб і саланіна. Жыды саланіны не любілі. То, бывала, на вялікім перапынку, некаторыя заганяць жыда ў кутох і вышмаруюць яму губы саланінай, «каб навучыўся яе есці». [Такія паводзіны, калі здараліся ў Орлі, то вельмі спарадычна. І толькі тады, калі ў класе правадыром быў надта гарэзлівы вучань.] Жыдоўскія дзяўчыны былі вельмі прыгожыя, было сярод іх крыху рыжых.

**Успамін Любы СТЭПАНЮК** з роду Казлоўскіх з Орлі (1922-2017), («З жыдамі жылі мы вельмі добра», «Ніва» ад 03.06.2012):

— Жыды выпякалі смачныя булачкі, якія давалі дзецям у школу. У школе жыды атрымлівалі таксама чай, а нашы людзі сваіх дзяцей на чай не запісвалі з-за нястачы грошай.



**Вучні IIIб класа**, хрысціяне і жыды, у навучальным годзе 1934/35 (народжаныя ў 1922-1926 гадах уключна). Здымак на фоне будынка «малой школы». Прозвішчы паводле спіска са школьнага дзённіка: Бялецкі Мордка, Бертман Гая-Іла, Бертман Гая, Бертман Ігдал, Бертман Шэпсель, Бушміц Капель, Бархах Давід, Бертман Златка, Цішлер Мошка, Далінска Сара, Гжыбэк Гелена, Гонта Мікалай, Гутман Жэля Марыя, Гармітоўскі Зыгмунт, Грахоўскі Іцка, Грахоўска Сара, Гітэльман Шмуль, Галавеска Хава, Кастэрэва Марыя, Кудэрска Надзея, Кацэйка Кацярына, Капланскі Янкель, Кест'ен Шлома, Крэшын Мірця, Крамарска Хаша, Ляцкі Лейбэ, Марк Юзаф, Алесюк Ольга, Ахрыцэвіч Валенты, Пасечнік Міхал, Рэнгайла Міхал, Собель Эльяш, Шумахер Нома, Рубашэўскі Базыль, Рыбак Ян, Серадзкі Рышард, Срыбуцкі Мендэль, Врублеўска Данута-Тэрэса, Вернік Шыя, Заянчкоўска Вера, Заянчкоўска Марыя. **Настаўнікі** (пасярэдзіне): Марыя Врублеўска, Тадэвуш Врублеўскі — загадчык школы, Гелена Барлагова, Тадэвуш Акушка.



**Вучні V класа**, хрысціяне і жыды, навучальны год 1934/35 (народжаныя ў 1921-1924 уключна). Прозвішчы паводле спіска са школьнага дзённіка: Азор Малка, Бахрах Хая, Бахрах Нослу, Бяроза Анатоль, Бертман Хаша, Бертман Шэйна, Бертман Янкель, Бялецка Ванда, Божым Яніна, Бжэзінска Рохля, Бушміц Меер, Харуй Алексы, Хурса Ян, Цыман Індa, Цыман Сара, Чахоцкі Іцка, Чыжэўска Сара, Дырдак Брайна, Фішбейн Маша, Герба Пётр, Ганёндзка Эстэра, Грайка Стэфан, Ярмутоўскі Юзаф, Качаноўскі Мікалай, Качынска Ларыса, Кажанска Рохля, Кравецкі Абрам, Кравецкі Эля, Кубаеўскі Данель, Кубаеўскі Тэадор, Ляцкі Янкель, Ляшэвіч Зофія, Лемеш Надзея, Меламед Эстэра, Міклацка Фейга, Мароз Сэргіюш, Мураўска Эльжбета, Альшанскі Хаім, Рэнгайра Владзімеж, Рыбак Яніна, Самай Шмуль, Сахарчук Сэргіюш, Смаглер Сара, Стасенка Станіслава, Шмідт Хана, Тапалянскі Хаім, Вернік Абрам, Валкастоўска Рохля, Себясевіч Алексы, Казімерук Гжэгаж, Корзун Марыя, Назарэвіч Францішак. **Настаўнікі** (пасярэдзіне): Тадэвуш Бялецкі, Марыя Врублеўска, Тадэвуш Врублеўскі, Гелена Барлагова, Тадэвуш Акушка

У школе сядзела я за адной партай з Надзькай Ярымовіч. Парта была прызначана траім вучням і між намі — каб мы не размаўлялі — пасадзілі рыжую жыдоўку, якой мы не любілі. Ад жыдоў выходзіў таксама нейкі непрыемны пах, невядома ад чаго. Жыдоўкі наогул былі рыжыя, было і некалькі прыгожых.

**Успамін Яна САКАЛОЎСКАГА**, 1932 года нараджэння з Кашалёў («Быў вялікі збыт на кафлю», «Ніва» ад 25.11.2018):

— З жыдамі я вучыўся яшчэ пры саветах; сядзеў з імі за партай. Адзін жыд, Хаім Кручкоўскі, быў нават маім добрым сябрам. І такая тоўстая жыдоўка Эва сядзела ў парце са мною. Памятаю, што жыды не елі свініны. А той калега Хаім, калі мы прыносілі каўбасу, каштаваў яе, а жыдоўка Пэша крычала, што скажа ягоным бацькам.

**Успамін Мікалая БАГАЦЭВІЧА** з Орлі (1926-2019), («50 гадоў у згодзе», «Ніва» ад 14.03.2010):

— З жыдамі хадзіў у школу. Яны добра вучыліся, мелі талент да навукі. Хрысціянскія дзеці былі бяднейшыя. Не мелі мы нават ботаў, аж да маразоў хадзілі ўсе басанож, а вошы ў кожнага былі як паравозы; вошы ад бяды, а ногі пакалечаныя. Мелі мы самаробныя торбы на сшыткі, ніякіх пеналаў, нічога больш. У школе кожны хлопец мусіў сядзець за партай з дзяўчынай. Я сядзеў з жыдоўкай Хайчай [Пуня Хая, нараджаная 05.05.1926], не дазваляла мне спісваць, засланялася локцем. Жыдоўскія дзеці з багацейшых сем'яў часам дзяліліся сваімі канапкамі. Памятаю, што калі ўжо канчалі ўрокі, заўсёды спявалі дзяржаўны гімн.

**Успамін Яна ГАВОРКІ**, 1931 года нараджэння з Кашалёў («Служыў адным і другім», «Ніва» ад 04.08.2019):

— У школу пайшоў у 1939 годзе. Настаўнік сказаў кожнаму вучню прынесці грашак ці колькі на станковы кулямёт. Арлянская школа купіла.

У парце сядзеў я з жыдам і жыдоўкай, былі двайнятамі, іхняе прозвішча Ізбуцкі. Ізбуцкія мелі ў Орлі пякарню. Паводле мяне абое яны былі з 1931 года. Я да іх заходзіў дзеля таго, каб атрымаць булачку. Іхнюю сям'ю немцы забралі ў гета. [Некаторыя арляне прыгадваюць, што Ізбуцкіх вывезлі саветы.] Іх старэйшы брат Ёсаль быў у Чырвонай Арміі, выжыў.

**Успамін Яўгеніі ХМЯЛЕЎСКАЙ**, у дзявоцтве Пятроўскай, 1931 года нараджэння з Орлі:

— Пры санацыі скончыла першы клас, а пасля ўспыхнула вайна. Вучылася разам з жыдамі. Памятаю дзяўчыну Малі, дачку Янкеля Бушміца, які жыў у самым канцы Орлі і ў полі меў ветравы млын. Бушміц меў яшчэ двух старэйшых сыноў: Шмулі і Лейзер, які быў ужо дарослы. Са мною вучылася таксама дзяўчына Рыўка, якая жыла паміж аптэкай і Авелем [пасля вайны было там кіно].

**Успамін Галіны БАГАЦЭВІЧ** з роду Адзіевічаў («Наш дом быў побач сінагогі», «Ніва» ад 31.08.03):

— У школу пайшла, калі было мне шэсць гадоў. Маючы 13 гадоў скончыла сем класаў. Сядзела за адной партай з жыдам Іцалам Бергманам і жыдоўкамі. Настаўніца Мілерова гаварыла да нас, хрысціянак, на перапынку: «Дзяўчынкі, дзяліцеся канапкамі з жыдоўкамі, жывіце прыязна.» Так што розніцы між намі не было. І заўсёды дзяліліся канапкамі.

**Успамін Веслава ВРУБЛЕЎСКАГА**, 1928 года нараджэння з Едліч каля Кросна ў Падкарпацкім ваяводстве; сынам загадчыка арлянскай агульнай школы ў 1920-1930-х гадах:

— У ліку маіх жыдоўскіх равеснікаў я не меў прыяцеляў. Мае бацькі не былі антысемітамі. Я таксама не адчуваў нянавісці да гэтых людзей. Мы, як вучні, сядзелі ў суседніх партах. Школьны панадворак быў супольны, аднак не было супольных гульняў. Хадзілі і бегалі па тых самых вуліцах, але заўсёды асобна. Настаўнікі стараліся інтэграваць класныя грамадкі. Вызначалі месцы дзе маюць сядзець вучні так, каб не вылучаць нацыянальных ці рэлігійных груп. Гэта не спрацоўвала. Яўрэйскія вучні заўсёды вярталіся на ранейшыя месцы. Не пярэчу, былі выключэнні, асабліва сярод вучаніц. Жыдоўскія дзяўчыны былі больш кампанейскія чым жыдоўскія хлопцы. Ахвотней удзельнічалі ў супольных забавах і гладжаных у школе мерапрыемствах. Дзяўчаты, без аглядкі на нацыянальнасць, дружылі з сабою, хлопцы — у прынцыпе — не.

Апрацаваў і запісаў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

Фота з архіва аўтара

# Імя Сakрата Падляшскім (і іншым) самаўрадам

*Адкрыты ліст (і заклік)*

*„Рассохлы парог хаты бацькоў пакінуць, каб ад долі ўцячы, — можаш. Туманны ўсход і пах ліпаў забыць, каб шумным асфальтам прайсціся, — можаш. Усмешку дзяцінства ды радасць жыцця пагасіць, каб далёкія мары наблізіць, — можаш. Словапесню сваю ў пыл дарогі шпурнуць, каб хутчэй слупы верставыя міналі, — таксама можаш.*

*А калі слязамі боль пакоіцца, калыханку матчыну ўспомні.*

**Сакрат Яновіч**



Сёння (14.10) мы традыцыйна адзначаем Дзень настаўніка. Цяпер усё інакш, чым было заўсёды. Асабліва для саміх настаўнікаў і ўсяго калектыву школы. Быць настаўнікам, жыць і працаваць у разрыве паміж клопатам пра вучняў і клопатам пра ўласнае здароўе і сям'ю становіцца ўсё складаней. „Быць аўтарытэтам у часы падзення аўтарытэтаў. Выхоўванне для свету, які становіцца ўсё больш складаным і незразумелым. Калісьці выбітны сацыёлаг і філосаф Георг Зімэль казаў, што ў кожнага чалавека, які нарадзіўся, ёсць свае ўнікальныя дзверы, праз якія ён павінен увайсці на свой жыццёвы шлях. Калі ён памыляецца, ён пройдзе праз чужыя, але свае ніколі не адкрые. Ніколі. Нельга памыляцца. Настаўнікі побач з бацькамі, а ў наш час усё часцей і часцей замест іх дапамагаюць дзецям распазнаць іх дзверы» — Тадэвуш Гадач.

Настаўніцы і настаўнікі — гэта нашы такія «першыя маці». Менавіта іх праца з намі дапамагае зразумець свет, у якім мы жывем. Бо кожны з нас калісьці пакіне «пабітыя парогі бацькоўскага дома». Але наша памяць павінна працягвацца.

З гэтай нагоды я хацеў бы звярнуцца з заклікам даць імя Сакрата Яновіча вуліцам, малым скверам і г.д. у нашых мясцовасцях, з якімі ён быў звязаны. Школьныя альбо камунальныя бібліятэкі таксама могуць стаць добрым месцам памяці. Я звяртаюся з гэтай просьбай асабліва да мясцовых органаў улады ў нашым ваяводстве. Хацелася б проста пакланіцца бібліятэчным парогам!

БІБЛІЯТЭКУ раней называлі паронзаму — народнай, асветніцкай, масавай, школьнай, паўшэхнай ці іначай. Бібліятэкі выконваюць вельмі важную ролю як фактар доступу да культуры. Яны аб'ядноўваюць грамаду школы, вёскі, раёна ці гміны. Паводле Яна Волаша (...) *мадэль сацыяльнай функцыі бібліятэкі вычарпана чатырма сферамі яе задач, гэта значыць як цэнтру адукацыі, культуры, інфармацыі і грамадскі цэнтр.* Нельга ігнараваць іх значэнне ў развіцці сельскіх раёнаў. І шмат якія мясцовасці ў нашым ваяводстве належаць да такіх месцаў. А таксама ў паказванні і падтрыманні традыцый і мясцовай спадчыны гэтых абшараў. Акрамя цэнтра культуры альбо школы, гэта спецыяльныя месцы для навучання і падтрымання «мясцовага патрыятызму». Такога важнага ў наш час.

Напэўна, кожны з нас карыстаўся бібліятэкай, не ведаючы, наколькі важна гэта месца. Кнігу мы пазычылі толькі бясплатна. Вы ўпэўнены? Гэта не проста кніга. Гэта таксама месца сустрэч з іншымі людзьмі. Зносіны, размова з бібліятэкарам, настаўнікам. Менавіта яны часта дапамагалі нам і стымулявалі развіваць нашы страсці. Яны нам паказалі, што існуе такое паняцце, як літаратура, паэзія, мастацтва. Яны дапамаглі нам «раскрыць вочы на свет». Яны развівалі нас інтэлектуальна, пашыралі разумовы кругагляд! Казкі, легенды, школьнае чытанне — гэта пачатак нашага падарожжа ў дарослы свет. Пазней яны таксама былі ініцыяткамі нашых першых «навуковых падарожжаў і адкрыццяў». Сёння, вядома, ёсць і іншыя магчымасці для спазнавання свету.

Чаму Сакрат Яновіч?

Сакрат Яновіч быў якраз такой асобай, якая ведала і клапацілася пра культуру «малой радзімы». Чалавек вялікага фармату, усюды вядомая і паважаная асоба, выдатны польскі беларус, які пісаў на беларускай і польскай мовах, пісьменнік і журналіст, эсэіст і мысляр. Настаўнік добра зразумелай «свойскасці». Як калісьці пісаў пра яго Юры Хмялеўскі: «На мой погляд, ён быў на крынска-гарадоцкай зямлі апошнім грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага. Гэтай легендарнай старабеларускай дзяржавы, якая сваім шматкультурным багаццем і надзвычайнай духоўнасцю ўносіла свой уклад у моц Рэчы Паспалітай. Крынкі, Гарадок і наваколле па сённяшні дзень — гэта як цудам захаваныя абломкі той чароўнай гістарычнай Літвы. Сакрат Яновіч гэта ўсведамляў, дзякуючы сваёй бліскучай творчасці і надзвычайнай асабістай харызме, ён дакладна сачыў за памяццю, каранямі і самабытнасцю нашай маленькай падляшскай радзімы».

З паклонам – **Дар'юш ЖУКОЎСКІ**



Аляксандр Лукашэнка, які на пачатку свайго прэзідэнцтва сцвярджаў, што на беларускай мове нельга выказаць нічога разумнага, на жаль, усё яшчэ пры ўладзе. Жыццё ж за гэты час безліч разоў абвяргала яго шматлікія, мякка кажучы, дзіўнаватыя сцвярджэнні. Так адбылося і з вышэйзгаданым. Беларуская мова, якая была да Лукашэнкі, застанецца і пасля яго, як і ўсе чалавечыя мовы прыдатная для ўсяго, пра што людзі кажуць, у тым ліку і для зносін у такой складанай галіне як фінансавая. Каб у гэтым у чарговы раз упэўніцца, варта зайсці на сайт фірмы „Лідарінвест", якая працуе на рынку каштоўных папер.

Сайт прыватных фінансістаў месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://leader.by**. Выглядае ён даволі сучасна і інфармацыйна. Прывабнасць дадаюць ілюстрацыйныя фотаздымкі людзей з прыязнымі ўхмылкамі, якія нібы перадаюць месыдж — з дадзенай фірмай прыемна весці справу. Так гэта насамрэч ці не, могуць давядацца толькі тыя, хто сутыкаўся з яе працай.

„Мы прапануем Вам комплексны падыход да вырашэння задач эмітэнтаў і інвестараў на рынку каштоўных папер у Беларусі", — сцвярджаецца на галоўнай старонцы сайта кампаніі. Сярод яе прапаноў — дэпазітарнае абслугоўванне, брокерскія паслугі, кансультацыйнае абслугоўванне па ўсіх пытаннях функцыянавання фондавага рынку і іншыя. Да „Лідарінвеста" могуць звяртацца не толькі фірмы буйнога, але сярэдняга і малога бізнесу, а таксама прыватныя асобы.

Калі цікаўны карыстальнік інтэрнэту хоча больш даведацца пра фірму, то яму варта зазірнуць у рубрыку „Аб кампаніі". Сваю гісторыю яна адлічвае ад 2001 года, прычым актыўную дзейнасць, паводле там размешчанай там інфармацыі, „Лідарінвест" распачаў толькі ў 2004 годзе. Далей, канешне, ідзе выключна рэкламны артыкул, у якім тым не менш можна знайсці і вартыя ўвагі моманты. Напрыклад тое, што асноўныя супрацоўнікі кампаніі вядуць свой працоўны стаж ажно ад моманту з'яўлення незалежнай Беларусі.

„Ключавым актывам ЗАТ «Лідарінвест» з'яўляюцца нашы супрацоўнікі — выпускнікі эканамічных і фінансавых факультэтаў БДУ (Беларускі дзяржуніверсітэт) і БДЭУ (Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт), якія прайшлі жорсткі конкурсны адбор, трэнінгі ўнутры кампаніі. Асноўныя супрацоўнікі кампаніі маюць вялікі досвед працы і пачыналі сваю дзейнасць на рынку каштоўных папер у пачатку і сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Усе супрацоўнікі, звязаныя з ажыццяўленнем аперацый з каштоўнымі паперамі, маюць атэстаты на права дзейнасці на рынку каштоўных папер 1-й і 2-й катэгорый", — гаворыцца на прэзентацыйнай старонцы.

У рубрыцы „Прадукты і паслугі" ЗАТ „Лідарінвест" распавядае, што яго дэпазітарый на падставе шматгадовага супрацоўніцтва абслугоўвае больш за 150 эмітэнтаў каштоўных папер, а таксама вядзе больш за 70 тысяч рахункаў „дэпа". „Кліенты дэпазітарыя — эмітэнты атрымліваюць поўны комплекс паслуг, уключаючы кансультацыйнае абслугоўванне. Прыём кліентаў — фізічных асоб вядзецца ў спецыяльна абсталяванай зручнай аперацыйнай зале", — адзначаецца там. У падрубрыках дадзенай рубрыкі можна знайсці больш поўную інфармацыю аб дэпазітарным абслугоўванні фізічных асоб, брокерскіх паслугах, арганізацыі выпуску аблігацый і аб венчурных інвестыцыях.

Справаздача пра дзейнасць „Лідарінвеста" па гадах месціцца ў аднайменнай рубрыцы. Праўда, там ужо ўсё не па-беларуску.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара



# 110 гадоў з дня нараджэння Леаніда ГАЛЯКА

Беларускі юрыст, журналіст, грамадскі дзеяч эміграцыі Леанід Галяк нарадзіўся 31 кастрычніка 1910 года ў Вільні на так званым Зарэччы. Паходзіў з сям'і паштовага службоўцы. Бацька Ян Галяк быў родам з гістарычнай Ашмяншчыны — нарадзіўся і жыў у Іўі. Маці Леаніда Галяка — Аўгення — з роду Пяткевічаў, паходзіла з тэрыторыі цяперашняй Літвы. У 1912 годзе Ян Галяк быў прызначаны начальнікам пошты ў мястэчку Бэйсагола ў Шавельскім павеце на Жамойці. У пачатку 1914 года сям'я вярнулася ў Вільню. У час Першай сусветнай вайны Леанід Галяк разам з блізкімі сваякамі, спярша без бацькі, быў у бежанстве — у Новазыбкаве на Браншчыне, горадзе, дзе жылі пераважна расейскія старавеpы. У 1916 годзе Леанід моцна хварэў. У 1918 годзе сям'я падалася ў горад Ліпецк. Там Леанід зноў моцна хварэў, вучыўся ў Ліпецкай пачатковай школе. Сям'я жыла ў нястачы, бацька не вытрымаў на чужыне і з'ехаў у Вільню.

Уся сям'я вярнулася ў Вільню ў студзені 1922 года. У канцы зімы Леанід пайшоў у пачатковую школу пры Першай Беларускай Віленскай гімназіі, потым вучыўся ў той гімназіі. Гімназія была на Вастрабрамскай вуліцы ў слаўтых Базыльянскіх мурах. Настаўнікамі былі такія вядомыя асобы як Ігнат Дварчанін, Мікола Марцінчык, Вінцэнт Грышкевіч, Антон Нэкандa-Трэпка, Антон Луцкевіч. Скончыў гімназію Галяк у чэрвені 1930 года. Далей у 1930-1935 гадах навучаўся на хімічным, а пазней юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Тады пачаў удзельнічаць у беларускім адраджэнскім руху.

У час Другой сусветнай вайны і нямецкай акупацыі Галяк працаваў суддзёй Мінскага акруговага суда. У 1944 годзе прызначаны рэктарам стваранага Беларускага юрыдычнага інстытута, аднак у сувязі з вяртаннем бальшавікоў з'ехаў у эміграцыю. У 1944-1945 гадах Леанід Галяк — супрацоўнік Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў Беларускай Цэнтральнай Рады. Заснаваў Беларускае бюро ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюза беларускіх журналістаў на чужыне і выдання „Летапіс беларускай эміграцыі".

З 1949 года Леанід Галяк жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар газеты „Беларус" (1950-1951). Сябра БАЗА, у 1953-1956 гадах уваходзіў ва ўправу Стэмфардскага аддзела арганізацыі. У 1955 годзе выйшаў з Рады БНР, а ў наступным годзе і з БАЗА. Спрычыніўся да заснавання Камітэта вызвалення Беларусі. Менавіта адышоўшы ад згаданых арганізацый, ад усіх тых закалотаў, сварак, інтрыг, ён займеў час для стварэння сваіх найгалоўнейшых рэчаў. Леанід Галяк працаваў шмат, але выдаваць не спяшаўся: пераважная частка яго спадчыны пабачыла свет пасля смерці аўтара, дзякуючы намаганням жонкі Раісы і сяброў-паплечнікаў, найперш Васіля Шчэцькі, а таксама Міколы Панькова.

Леанід Галяк — аўтар „Успамінаў" (надрукаваныя ў двух тамах у 1982-1983 гг.), пазбаўленых палітычнай ангажаванасці і поўных тонкага гумару ў апісанні побыту і характараў беларускіх грамадскіх дзеячаў як у Беларусі, так і на эміграцыі. Галяк зрабіў таксама пераклады выбраных кніг Старога Запавету на беларускую мову. Яны былі зроблены яшчэ ў 1949-1950 гадах у час знаходжання ў нямецкім Ватэнштэце. Машынапісы перакладаў былі дасланыя ў верасні 1973 года біскупу Сіповічу ў Лондан у звязку з паўсталай ідэяй стварэння новага перакладу Біблії.

Памёр Леанід Галяк 3 красавіка 1980 года ў Стэмфардзе (штат Канектыкут, ЗША).

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Я з „Нівай” многа гадоў

Жыхарка Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Ліда Галубоўская чытае беларускі штотыднёвік „Ніва” многа гадоў. У яе прыгожым мураваным доме заўсёды красуецца на сцяне беларускі каляндар „Нівы”. Чытаць па-беларуску яна навучылася ў Пачатковай школе ў Юшкавым Грудзе Міхалоўскай гміны (яна і адтуль родам). Вучыла настаўніца з-пад бандароўскай вёскі Багнюкі.

У Новае Ляўкова маладая дзяўчына Ліда выйшла замуж і тут прадаўжае жыць. У яе двух сыноў, якія часта наведваюцца ў родную вёску Ляўкова. Прывозяць маме пакупкі.

Спадарыня Ліда мае прыгожы кветкавы агародчык перад домам, у якім часта можна яе ўбачыць вясной і летам. Яна вельмі любіць дэкаратыўныя расліны. У яе кветкі таксама ў вазонах у хаце. У доўгія асеннія і зімнія вечары ахвотна аглядае кінафільмы і іншыя тэлевізійныя праграмы. Мае больш часу, каб пачытаць „Ніву”. Яна з роднай газетай сябруе многа гадоў.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**




## Помнік Св. Марыі Петручук

Грамадская ініцыятыва «Наша памяць» і Беларускае гістарычнае таварыства з сядзібай у Беластоку намерваюцца паставіць помнік на магіле Св. Марыі Петручук на праваслаўным могільніку ў Малешах каля Бельска-Падляшскага. Ідэю будовы помніка паблагаславіў Яго Блажэнства Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава. Уладыка Сава напісаў: Высакародная справа. Ухваляю. Праект помніка зацвярджаю.

Святая Марыя Петручук стала ахвярай нападзення, учыненага 2 лютага 1946 года на вёску Шпакі падпольным атрадам Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса псеўданім «Буры». Марыя Петручук запрацівілася тады згвалтаванню. Адзін з бандытаў выстраліў у яе з аўтамата. У выніку атрыманых ран дваццацігадовая жанчына памерла 6 лютага ў шпіталі ў Бельску-Падляшскім.

У 2020 годзе Святы Сабор Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы прылічыў Марыю Петручук да ліку Святых Мучанікаў Холмскіх і Падляшскіх. З’яўляецца Яна Святой Праваслаўнай царквы.

У 2018 годзе грамадская ініцыятыва «Наша памяць» знайшла парэшткі Яе знішчанай і забытай магілы, паламанага крыжа і абрынутай намагільнай пліты. Прасілі яны літасці і памяці. Папрасілі мы тады дапамогі ў праф. Ежы Усціновіча, які запраектаваў новы помнік.

Ахвяраванні на будову помніка можна пералічыць на банкаўскі рахунак:

**Białoruskie Towarzystwo Historyczne**
**IBAN PL 70 1240 5211 1111 0000 4930 2882,**
**з прыпіскай „Nasza Pamięć”**





## Адгаданка

**1.** 16,38 кілаграма, **2.** павятовы начальнік, **3.** салдат, **4.** работа, **5.** возера паміж Глыбокім і Ушачамі, **6.** грыб са слізістай шапкай, **7.** вялікая сібірская рака, **8.** насычаны воданепранікальным рэчывам тоўсты кардон, дахавы і ізаляцыйны матэрыял, **9.** выспа на ўсходзе Міжземнага мора, **10.** грашовае выражэнне вартасці тавару, **11.** паўднёвае дрэва сямейства ружакветных у... Тайване, **12.** паэма пра Траянскую вайну, **13.** ніжняя частка плашча, якая сашпільваецца спераду, **14.** Уладзімір Ленін або Эрнст Тэльман, **15.** між Літвой і Украінай, **16.** франтон двухскатнага даху.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм. **(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | 2 | | | | | 3 | | | 4 |
| | | | 5 | | | | | 6 | | | | | | | |
| | | 7 | 8 | | | | 9 | | | | | 10 | 11 | | |
| | | | | 12 | | | 13 | | | | | 14 | | | |
| | | | 15 | | | | | | 16 | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Алімп, плячо, пчала, Зэльва, воўк, келіх, Твен, Кігалі, Амерыка, дзядзіна, крама.

Рашэнне: **З ліхім чалавекам то і гадзіна векам**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

## 01.11 — 07.11

**(22.03. — 20.04.)** Не чакай вялікіх пераломаў. Справы будуць каціцца памалу, у добрым напрамку. Не кідайся на глыбокую ваду. Атрымаеш салоны рахунак за празмерную актыўнасць і эксплуатацыю сіл коштам уласнага арганізма. Найлепш будуць адчуваць сябе Бараны з першых дзён знака.

**(21.04. — 21.05.)** Дарвецца да цябе ахвота змен, паправак і інавацый. У пачуццях скандалік на гарызонце. Не паддавайся розным цягам, бо можа гэта кепска кончыцца. Многа задум, якія зрэалізуеш. Пільнуй кашалька, не рабі вялікіх пакупак, зважай на асобы, з якімі робіш інтарэсы. Рыхтуйся да змен.

**(22.05. — 22.06.)** Перад табой многа працы, але і добрыя нагоды, не змарнуй іх. Любоў прыйдзе; ці застанецца? Першыя дэкады на працы «дадуць табе ў косць». Будзе мноства заданняў, трэба будзе пасядзець даўжэй на працы ці ўзяць работу дахаты (аж да 10.11.). Аранжыруй месца працы. 1-7.11. будзеш чагосьці чакаць і перажывеш расчараванне. Нейкія прыкрыя перажыванні, або толькі ўспаміны з перажытых траўм?

**(23.06. — 23.07.)** Зоймешся домам і прыгадаеш блізкім аб сваім існаванні. Патрапіш выслухаць і суцешыць. Здымеш ружовыя акуляры і цвяроза глянеш на ўсё і твае рашэнні будуць трапныя. Будзеш думаць аб іншых. Але хопіць дапамагаць сілай. На працы спакойна рабі сваё. 1-7.11. пераходныя дні, рашэнні будуць незваротныя. Схадзі да лекара, калі зможаш, палячы зубы. Не трымайся пры тым, што неактуальнае. Калі нядобра на працы, зацісні зубы і адчакай (пасля 24.11. сітуацыя зменіцца ў тваю карысць).

**(24.07. — 23.08.)** Многа абавязкаў, якімі мусова неадкладна заняцца. Разлічвай на інтуіцыю. Пагадзіся з сям’ёй і ўспрымі мінулае. Запас сілы і энергіі, і нагоды для радасці. У пачуццях крыху дылем. На працы хутка рашай, не меўшы ўсіх даных — разлічвай на інтуіцыю і бізнесовы нос. Шэф, пільнуй працаўнікоў; 4-8.11. не будзь несправядлівым у ацэнцы. Фінансава хутчэй худы месяц; адкладзі штосьці на пасля. Празмернасць абавязкаў можа давесці да нервовасці. Асабліва дбай аб імунітэт 4-8.11., бо зловіш грып; не ідзі цяпер на аперацыі, да цырульніка і касметычкі.

**(24.08. — 23.09.)** Рабі сваё, тое ў што верыш, і не пераймайся балбатнёй. Узнагарода цябе не міне. Пазмагайся за пачуцці ў пары. А будзеш раўнівы! Дома цяжка цябе перанесці, будзеш надта крытыканскі, таксама і для сваёй асобы. Будзеш кемлівы і зыркі. 4-8.11. кінешся рабіць парадкі, не выкінь вельмі важных папер. На працы творчыя заданні. Добра ў фінансах увесь лістапад, найлепш у Дзеў з ІІІ дэкады.

**(24.09. — 23.10.)** Дазволіш жыць іншым, але сам не падпарадкуешся нікому. Пабушуеш у каханні. Будзеш упарты і самаўпэўнены. Нават можаш пасварыцца са старэйшымі ў сям’і. Будзеш вельмі прываблівы, і гэта выкарыстаеш. На працы не плануй у лістападзе найцяжэйшых задач. Могуць прыпазніць твае планы; не аказвай ціску. Цёпла апранайся.

**(24.10. — 22.11.)** Трапіш у цікавыя месцы, пазнаёмішся з прыязнымі людзьмі. Твая прага поспеху будзе заспакоена. Многа энергіі для новых пачынанняў і крэатыўнасці. Аформіш адкладзеныя справы і гэта табе аплаціцца. У пачуццях малыя крызісы. Найбольш часу аддай хатнім справам. Але на працы возьмешся за кожны праект, апынешся на чале мерапрыемстваў. Не ўсё ўдасца (жыццёвы ўрок). Моцна эмацыянальна. Звані знаёмым. Высыпайся.

**(23.11. — 22.12.)** З партнёрам пераходныя праблемы, але захавай спакой. У прафесіі шматлікія поспехі. Не будзе бяздзейна, набярэш многа досведу. З 6.11. (аж да 20.11.) не паддайся спакусе ўзбагаціцца несумленна. Дома будзеш галавой. Многа неруціннай працы. Заззяеш крэатыўнасцю, навучышся многаму. Дзве першыя дэкады месяца (да 20.11.) паніжэнне энергіі, не прастынь.

**(23.12. — 20.01.)** Не дасі кіраваць сабою. Зможаш многа, а нязломнасцю і сілай характару пераможаш усе цяжкасці. Схочаш вырвацца з ладоў. Новыя прафесійныя магчымасці. Дома можаш ударыць у стол. Казярогі з ІІІ дэкады будуць жыць мінулым, успамінаць свае паразы, але не пераймайцеся! На працы таксама пара пачаць новае (6-20.11.). Вельмі дбай аб насавыя пазухі (затокі).

**(21.01. — 19.02.)** Мноства спраў, але ўвесь лістапад — фантастычны. Ды дойдзе да цябе невясёлая вестка аб сябра. Шмат зробіш, перакананеш асяроддзе да тваіх выбараў. Хтосьці схоча тармазіць твае задумы і падрэзаць крылы — не пераконвай іншых, сам ведаеш, што робіш. На рабоце справішся з «хвастамі». Не душы ў цябе шмат адмоўных эмоцый.

**(20.02. — 21.03.)** Паверыш у свой талент. Аддасі сябе старым захапленням і будзеш мець з гэтага задавальненне. 1-7.11. многа не абяцай. Тое, за што цяпер возьмешся, мае гарантаваны поспех. Будзеш кіравацца прагнозамі, вылікам і інтуіцыяй. Не шукай хвароб. Трымайся цёпла.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 39,00 zł., półroczna 78 zł., roczna 156 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 70 zł., półroczna 140 zł., roczna 280 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

**Нядаўна пісаў я пра белавежскую царкву. Вярнуся да яе яшчэ раз. У ёй, як згадвалася, знаходзіцца вялікі абраз Пакрова, які больш падыходзіў бы да Вавілонскай вежы, чым да белавежскай царквы. Згадваў я таксама пра ікону царскай сям'і, расстралянай бальшавікамі.**



# Вопратка

Вось, пара заняцца бліжэй тымі святымі. Вікіпедыя: «З 1920-х гадоў, у рускім замежжы па ініцыятыве Саюза змагароў памяці імператара Мікалая II, здзяйсняліся рэгулярныя задушныя памінанні імператара Мікалая II тройчы ў год (у дзень нараджэння, дзень тэзаімянінаў і ва ўгодкі забойства), але яго шанаванне як святога пачало шырыцца па сканчэнні Другой сусветнай вайны. 19 кастрычніка (1 лістапада) 1981 года імператар Мікалай і яго сям'я былі кананізаваны Рускай Замежнай Царквой (РПЦЗ), якая тады не мела царкоўнага камунікавання з Маскоўскім Патрыярхатам у СССР. Развязка Архірэйскага Сабора Рускай праваслаўнай царквы ад 14 жніўня 2000 года: «Уславіць як пакутнікаў у саборы навамучанікаў і спаведнікаў Расійскіх царскую сям'ю: імператара Мікалая II, імператрыцу Аляксандру, царэвіча Алексія, вялікіх княжнаў Вольгу, Таціяну, Марыю і Анастасію» (іх памяць — 4 ліпеня па юліянскім календары). Акт кананізацыі быў успрыняты расійскім грамадствам неадназначна: суперніки кананізацыі сцвярджаюць, што абвяшчэнне Мікалая II святым насіла палітычны характар. З іншага боку, у часткі праваслаўнай супольнасці цыркулююць ідэі пра тое, што ўслаўлены цара як пакутніка недастаткова, і ён з'яўляецца царом-збаўцам. Ідэі асуджаны Алексіем II як блюзнерскія, бо «збаўцельны подзвіг адзін — Бога нашага Ісуса Хрыста». У 2003 годзе ў Екацярынбургу, на месцы знесенага дома інжынера Іпацьева, дзе былі расстраляны Мікалай II і яго сям'я, быў пабудаваны Храм-на-Крыві, перад уваходам у які ўсталяваны помнік сям'і Мікалая II».

Вось здавалася б, добра, што расійскія іерархі падумалі пра ўшанаванне пакутнікаў. Толькі шкада, што не падумалі яны пра ўсіх пакутнікаў, а ў іх ліку і тых мучанікаў, якія пакутавалі па царскіх рашэннях. Ну, шмат у нас пісалася і гаварылася пра бежанства, але неяк так асцярожна, не называючы таго бежанства віноўнікаў. А галоўным жа сам цар Мікалай II, без чыёй згоды не было б масавага выгнання нашага насельніцтва на пакутнае бадзянне. Бо ж ахвяры спачылі, магчыма, у нейкіх ананімных магілках, або і без іх. І ніякі след па іх не астаўся. Неяк не было занадта галасна пра царкоўнае ўшанаванне бежанскіх пакут, бо ж не пакінуты сляды, не насыпаны магілкі, не пастаўлены намагільнікі. Ну, калі няма следу, то можа і тых пакут не было?.. А царскія астанкі знайшліся, то і можна ім пакланяцца і, магчыма, нават ад прыкладання да тых рэліквій аздараўляцца — можа яны цудатворныя на цяперашнюю пошасць...

Можна дапусціць, што загад аб выгнанні нашых людзей быў дадзены па шчырым жаданні ратаваць іх ад выдуманых царскімі ж палітрукамі нямецкіх здзекаў; можа так цару данеслі і ён так менавіта паклапаціўся пра дабро нашых продкаў. Але дзесяць гадоў да вытурэння нашага насельніцтва з радзімы цар праславіўся менш маштабным подзвігам. Вікіпедыя: «9 (22) студзеня 1905 года ў Пецярбургу па ініцыятыве святара Георгія Гапона адбылося шэсце працоўных да Зімовага палаца. 6-8 студзеня святаром Гапонам і групай працоўных была складзена на імя імператара Петыцыя пра працоўныя патрэбы, у якой нароўні з эканамічнымі ўтрымліваўся шэраг палітычных вымогаў. Галоўнай вымогай петыцыі было знішчэнне ўлады ўрадоўцаў і ўвядзенне народнага прадстаўніцтва ў форме Установачага сходу. Калі ўраду стала вядома пра палітычнае ўтрыманне петыцыі, было прынята рашэнне не дапускаць працоўных да Зімовага палаца, а пры патрэбе затрымліваць іх сілай. (...) Каб запабегчы скупнасці 150-тысячнага натоўпу ў цэнтры горада, войскі змушаны былі зрабіць па калонах ружэйныя залпы. Паводле афіцыйных урадавых даных, за дзень 9 студзеня былі забіты 130 і паранены 299 чалавек. Па падліках савецкага гісторыка У. І. Неўскага, забітых было да 200, а параненых да 800 чалавек. (...) Рэдактар ліберальнага часопіса «Освобождение» П. Б. Струвэ у артыкуле «Кат народа» пісаў: «Народ ішоў да яго, народ чакаў яго. Цар сустрэў свой народ. Бізунамі, шаблямі і кулямі ён адказваў на словы смутку і даверу. На вуліцах Пецярбурга разлілася кроў і разарвалася назаўжды сувязь паміж народам і гэтым царом. Усё адно, хто ён, напышлівы дэспат, не жадаючы ўважыць да народа, ці пагарджаны баязлівец, які баіцца стаць тварам да твару з той стыхіяй, з якой ён пачэрпаў сілу, — пасля падзей 9 (22) студзеня 1905 года цар Мікалай стаў адкрыта ворагам і катам народа». У рэвалюцыйным друку дзень 9 студзеня атрымаў назву «Крывавай нядзелі». Пасля гэта назва была замацавана *Кароткім курсам гісторыі УКП(б)* і ўвайшла ў савецкую і расійскую гістарыяграфію».

Інакш пісаў пра цара пасля Крывавай нядзелі амерыканскі пісьменнік Марк Твен у артыкуле «Маналог цара». За дэвіз для гэтага артыкула Твен узяў карэспандэнцыю лонданскай газеты «Таймс»: «Раніцай, пасля ванны, да часу апранання, цар мае звычку праводзіць час у адзіноце, прысвячаючы яго роздумам». І ў той час такі ў цара Мікалая II маналог паводле Марка Твена: «Цар (разглядаючы сябе ў люстры). Голы, што я сабою прадстаўляю? Мізэрны, худасочны, крываногі, карыкатура на вобраз і падабенства Божае! Глянуць, галава як у васковай лялькі, выразу на твары не больш чым у гарбуза, вушы тырчаць, касцяністыя локці, запалыя грудзі, ногі быццам трэскі, а ступакі — рыхтык рэнтгенаўскі здымак; суставы, так — шышкі, ды ветачкі касцей. Нічога царскага, велічнага, паважнага, нічога, што магло б выклікаць захапленне і глыбокую пашану. Няўжо ж гэта мне пакланяюцца, перада мною падаюць ніцма сто сорак мільёнаў рускіх? Вядома, не. Неймаверна было б пакланяцца такому страшыдлу. Ну, тады ж каму ці чаму яны пакланяюцца? У глыбіні душы я гэта дасканала ведаю: яны пакланяюцца маёй вопратцы. Без яе я, як і ўсялякі голы чалавек, не меў бы аніякай улады. Ніхто не адрозніў бы мяне ад святара, цырульніка ці папростy франта. Такім чынам, хто ж, на самай справе, расійскі імператар? Мая вопратка. Яна, толькі яна. Калі прылежна задумацца, то стане ясна: без вопраткі чалавек — нішто, вопратка не толькі ўпрыгожвае чалавека, вопратка — гэта на самай справе чалавек; без яе ён нуль, нікчэмнасць, пустое месца. А званні? Гэтыя аздобы таксама ж частка вопраткі. Разам з парчой і аксамітам яны прыкрываюць убоства таго, хто іх носіць, прыдаюць яму важнасць, веліч, калі на самой справе нічога надзвычайнага ў ім няма. Яны могуць заставіць усю нацыю кленчачы абажаць імператара, які без вопраткі і званняў нічым не адрозніваўся б ад шаўца і, трапіўшы ў натоўп, зараз жа загубіўся б сярод простых людзей; імператара, які б паявіўся голым сярод голых, нічым не звярнуў бы на сябе ўвагі, не заслужыў бы ніводнага слова пашаны; на вуліцы, у таўкатні, яго стапталі б так, як і ўсялякага невядомага мінака, або яшчэ лепш: запрапанавалі бы яму за капейку данесці каму-небудзь нейкі клунак. (...) А калі задумацца, то яшчэ адно недаразуменне: за граніцай да цара і самадзяржаўя адносяцца паводле тых маральных мерак, якія прыняты ў цывілізаваных краінах. Паколькі там не прынята скідаць уладу тырана інакш чым законным шляхам, нехта там можа ўявіць, што такі парадак улацівы і Расіі; а ў Расіі зусім няма закона, ёсць толькі царская воля. Законы павінны абмяжоўваць — гэта іх адзіная функцыя. У цывілізаваных краінах яны абмяжоўваюць усіх грамадзян у аднолькавай ступені — гэта правільна і справядліва, у маёй жа дзяржаве калі і існуюць законы, то на нашу сям'ю яны не дзейнічаюць. Мы робім, што хочам. Вякамі рабілі, што хацелі. Злачынства ў нас прывычнае рамяство, забойства — прывычны занятак. Мільёны забойстваў на нашым сумленні. А багабаязныя маралісты цвердзяць, што забіваць нас — грэх. (...) Божа мой, што было б на свеце, калі б не было маралістаў? Яны ўвесь час нашым апірышчам, нашым заступнікам, нашым другам, сёння ж яны наш адзіны друг. (...) Маралісту ясна, што сёння мой трон сапраўды пад пагрозай: нацыя прабуджаецца з рабскай шматгадовай летаргіі. (...) Так, цяпер ужо не мінаваць бядзе! Нацыя корчыцца ў родавых муках, родзіцца велікан — ПАТРЫЯТЫЗМ! Будзем гаварыць шчыра і рашуча: патрыятызм сапраўдны, непадробны, гэта не вернасць дынастыі і фікцыі, а вернасць народу! (...) І падумаць, што гэта я сам натварыў столькі жорсткасцей... Тут не схаваешся ад асабістай адказнасці — сам віноўны! А гэта ж мяне сустракалі як бажаство, мне яны пакланяліся. Мне, такому пудзілу, такой моркаўцы. Адною рукою я засякаў да смерці ў нічым невіноўных жанчын і катаваў зняволеных, а другою — узнімаў у неба свой фетыш. (...) І падумаць толькі, што гэтаму пудзілу ў люстэрку, гэтай моркаўцы незлічоная маса людзей пакланяецца як бажаству. Ці ж грамадства зусім нічога не вартае? Няўжо яно самое сябе не шануе? Апасаюся, што я таксама трачу пашану да яго, а таксама і да сябе. Адзіны ратунак — вопратка! Вопратка, якая дае павагу, падбадзёрвае дух, самы каштоўны дар нябёсаў чалавеку, яго адзіная абарона ад самавыяўлення. Вопратка, абманваючая нас, перадаючая нам высакароднасць, якой у нас няма! (...) Пайду ж я, апрануся».

Артыкул Марка Твена быў надрукаваны ў сакавіку 1905 года ў газеце «Норт амерыкен рэвю». Прамінула сто пятнаццаць гадоў і, калі разгледзецца так навокал, то ён, артыкул, здаецца быць вечна маладым. Насьбіты адметных вопратак і званняў не звяліся, так як і ахвотныя іх велічаць...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960 44